ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 43 (2504)
ПЯТНІЦА
24
ліпеня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.

*Гушчар лесу пахне чаборам і мёдам,*
*Жывіцы настоем смалістым.*

*Там возера Свіцязь, як шыбіна лёду,*
*Ляжыць паміж дрэваў цяністых.*

А. МІЦКЕВІЧ.



Фота Ул. КРУКА.

**Днямі пастановай Савета Міністраў БССР возера Свіцязь і яго наваколле абвешчана ландшафтным заказнікам рэспубліканскага значэння.**

Гутарку нашага карэспандэнта А. Белавусава з намеснікам старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па ахове прыроды Трафімам Сямёнавічам Махначом, прысвечаную гэтай падзеі, вы можаце прачытаць на старонцы 3.

# ПЛЕНУМ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

23 ліпеня 1970 года адбыўся чарговы Пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі.

Пленум заслухаў даклад кандыдата ў члены Палітбюро ЦК КПСС, першага сакратара ЦК КПБ тав. П. М. Машэрава «Аб выніках ліпеньскага Пленума ЦК КПСС і чарговых задачах Кампартыі Беларусі ў галіне сельскай гаспадаркі».

У спрэчках па дакладзе выступілі тт. Г. А. Крыулін—першы сакратар Магілёўскага абкома КПБ, Д. В. Цябут—старшыня выканкома Мінскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных, А. Н. Аксёнаў — першы сакратар Віцебскага абкома КПБ, К. В. Мацюшэўскі—старшыня выканкома Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў працоўных, У. І. Быкоўскі—першы сакратар Маладзечанскага райкома КПБ, М. В. Гордзікаў — сакратар Гродзенскага абкома КПБ, А. В. Аляксанкін — міністр меліярацыі і воднай гаспадаркі БССР, А. С. Ляхаў—сакратар Гомельскага абкома КПБ, С. Г. Скарапанаў—міністр сельскай гаспадаркі БССР, В. Н. Яцэнка—дырэктар першага Салігорскага калійнага камбіната, Л. І. Хітрун—старшыня рэспубліканскага аб'яднання «Белсельгастэхніка», К. М. Сонцаў—рэктар Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, І. К. Максімаў—дырэктар саўгаса «Насовічы» Добрушскага раёна, М. В. Кашчэеў—міністр сельскага будаўніцтва БССР, Н. І. Афанасьеў—сакратар парткома завода «Гомсельмаш».

По абмеркаваным пытанні пленум прыняў пастанову.

# СВЯТА НА ПРЫБАЛТЫЙСКАЙ ЗЯМЛІ

**Вялікае і радаснае свята адзначылі рэспублікі Савецкай Прыбалтыкі. Трыццаць гадоў назад, 21 ліпеня 1940 года, працоўныя Літвы, Латвіі і Эстоніі скінулі антынародныя рэжымы нацыянальнай буржуазіі, аднавілі ўладу Саветаў. Гэтай знамянальнай падзеі былі прысвечаны ўрачыстыя пасяджэнні Цэнтральных Камітэтаў Камуністычных партый і Вярхоўных Саветаў трох братніх рэспублік. З усіх савецкіх рэспублік, у тым ліку з Беларусі, на свята да прыбалтыйскіх сяброў прыбылі партыйна-ўрадавыя дэлегацыі, якія горача і сардэчна павіншавалі юбіляраў.**

**У адрас Цэнтральных Камітэтаў, Прэзідыумаў Вярхоўных Саветаў, Саветаў Міністраў Літвы, Латвіі і Эстоніі паступілі гарачыя прывітанні ад Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў СССР.**

**...У гэтыя дні старажытная сталіца Літвы Вільнюс нібы памаладзела. Усё жыццё яе, здаецца, было падначалена адной падзеі — юбілейнаму параду народных талентаў.**

**Шаснаццацітысячны хор, тры тысячы дзяцей, каля тысячы музыкантаў вясковых капэл, якія выступілі на гарадскім стадыёне, злілі свае галасы, услаўляючы песнямі дружбу, мір, шчасце свабоднага жыцця, імя Леніна, справу Леніна, партыю, Радзіму.**

**А на другі дзень віхурай закруціліся імклівыя карагоды на свяце народнага танца.**

**Цёплым, абмытым расою ліпеньскім ранкам разлілося святочнае шэсце па вуліцах Рыгі. На стадыёне «Даўгава» адбыўся іскрамётны і захапляючы турнір лепшых танцавальных калектываў Латвіі. А ўвечары на вялікай пеўчай эстрадзе парку культуры і адпачынку семнаццацітысячны хор адкрыў свята песні.**

**Права адкрыць канцэрт на свяце песні ў Таліне заваявалі сімфанічныя аркестры Эстонскага радыё і тэлебачання і тэатра «Эстонія». Пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў ЭССР Н. Ярві прагучала «Урачыстая уверцюра» Д. Шастаковіча, затым у выкананні некалькіх хораў, двух аркестраў была выканана «Патэтычная араторыя» Г. Свірыдава.**

**Шэсцем шасці тысяч удзельнікаў адкрылася рэспубліканскае свята танца, якое стала ўжо добрай традыцыяй у культурным жыцці Эстоніі.**

# ПРАЦОЎНЫ ПОСТУП ПЯЦІГОДКІ

**Разгар апошняга лета пяцігодкі даносіць да нас разгар шчодрай творчай працы ў заводскіх цэхах і на калгасна-саўгасных палетках, на будаўнічых пляцоўках і транспартных магістралях. Гэта творчасць народа, яго працоўны энтузіязм, яго высокапатрыятычная воля і дзейнасць надзвычай красамоўна выяўляюць апублікаваныя днямі паведамленні ЦСУ СССР і ЦСУ БССР аб выніках выканання дзяржаўнага плана развіцця народнай гаспадаркі краіны і рэспублікі ў першым паўгоддзі 1970 года — перадапошнім паўгоддзі восьмай пяцігодкі. Так, план першага паўгоддзя па аб'ёму рэалізацыі прамысловай прадукцыі і выпуску большасці важнейшых вырабаў перавыкананы. Прырост прамысловай вытворчасці ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года склаў 8,5 працэнта, а прадукцыйнасць працы за гэты перыяд узрасла на 7,5 працэнта. Немалых поспехаў дасягнула наша сельская гаспадарка, транспарт, шмат чаго пабудавана, павысіўся дабрабыт і культурны ўзровень народа.**

**Усе гэтыя поспехі краіны і Беларусі мы бачым штодзень. Бачым, як багацеюць палеткі і людзі, як вырастаюць гмахі новых заводаў і камбінатаў, жылых дамоў, сельскагаспадарчых пабудоў. Толькі па нашай рэспубліцы ў мінулым паўгоддзі за кошт дзяржаўных цэнтралізаваных капітальных укладанняў уведзены ў дзеянне асноўныя фонды коштам 506 мільёнаў рублёў. Пачалі працаваць новыя магутнасці на Полацкім нафтаперапрацоўчым заводзе, Гродзенскім азотнатукавым заводзе, Магілёўскім камбінаце сінтэтычных валокнаў, магутнасці па вытворчасці жалезабетонных канструкцый і дэталей, мэблі, дрэнажных труб і г. д.**

**Абвешчаныя народу і свету лічбы і факты яскрава сведчаць аб правільнасці эканамічнай стратэгіі нашай Камуністычнай партыі і савецкага ўрада, правільнасці генеральнага напрамку, узятага на павышэнне эфектыўнасці, інтэнсіфікацыю грамадскай вытворчасці, найбольш поўнае выкарыстанне дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу. Наш кожны працоўны крок пацвярджае, што такая эканамічная палітыка надзейна забяспечвае поўнае раскрыццё творчых сіл народа, яго матэрыяльных і духоўных рэсурсаў.**

**Апублікаванне звестак ЦСУ супала з патрыятычным уздымам савецкага народа, скіраваным на падрыхтоўку чарговага XXIV з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Гэтыя падзеі вялікага палітычнага значэння натуральна звязваюцца ў адну агульную дэманстрацыю нашых сіл і магчымасцей. Увесь народ уключыўся ў сацыялістычнае спаборніцтва ў гонар прадстаячага з'езда. Безумоўна, што ў гэтым пачэсным спаборніцтве, у гэтай шырачэзнай плыні творчасці і энтузіязма ганаровае месца належыць нашай творчай інтэлігенцыі. Пісьменнікі і дзеячы мастацтва, усе, хто працуе над стварэннем мастацкіх каштоўнасцей для народа, хто вядзе напружаную ідэалагічную барацьбу за нашы савецкія, глыбока партыйныя ідэалы, — павінны быць вартымі свайго народа, уносіць дастойны ўклад у агульную справу.**



Госці Цімкавіч—беларускія пісьменнікі сустрэліся з сёстрамі Кузьмы Чорнага.
Фота Ул. КРУКА.

# НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

*УРАЧЫСТАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ 70-годдзю З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КУЗЬМЫ ЧОРНАГА, НА ЯГО РАДЗІМЕ*

Цімкаўцы шчыра ўшаноўваюць памяць выдатнага пісьменніка — свайго земляка. Некалькі гадоў назад побач са школай вырас невялікі зграбны дамок. Вакол яго — прыгожы кветнік, да ўваходу вядзе алея каштанаў. Гэта музей Кузьмы Чорнага, які пабудавалі і абсталявалі настаўнікі і вучні школы. Ініцыятар і арганізатар будаўніцтва музея — дырэктар школы, заслужаная настаўніца З. Раманенка. Экспанаты расказваюць аб жыцці і творчасці Кузьмы Чорнага. Тут фатаграфіі, шматлікія выданні кніг пісьменніка, малюнкі, зробленыя яго рукой, манаграфіі і крытычныя артыкулы, прысвечаныя творчасці пісьменніка.

Гэтымі днямі тут адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння Кузьмы Чорнага. На ўрачыстасць да цімкаўцаў прыехалі госці з Мінска, прадстаўнікі раённых арганізацый, сваякі Кузьмы Чорнага. Сярод вяскоўцаў, якія прыйшлі ўшанаваць памяць земляка, было нямала старых людзей, якія асабіста ведалі яго ў гады маленства і юнацтва.

Прасторная актавая зала школы перапоўнена. Усюды кветкі.

Вечар адкрыў старшыня Капыльскага райвыканкома Анатоль Вайтовіч. Ён ад імя цімкаўцаў прывітаў вядомых беларускіх пісьменнікаў, гасцей з Украіны, якія прыехалі на ўрачыстасць. Потым расказаў прысутным пра дзіцячыя і юнацкія гады пісьменніка, яго велізарнае ўздзеянне на выхаванне падрастаючага пакалення.

Са словам да прысутных звярнуўся Васіль Вітка, які прыгадаў акалічнасці сумеснай работы з Кузьмом Чорным у гады Вялікай Айчыннай вайны. Янка Скрыган выказаў падзяку ўсім настаўнікам і вучням за тую руплівую і патрэбную працу па ўвекавечанні памяці Кузьмы Чорнага. Сваімі ўспамінамі пра Кузьму Чорнага падзяліліся Іван Грамовіч, Алесь Асіпенка. Сяргей Грахоўскі прачытаў вершы, прысвечаныя пісьменніку.

У заключэнне вечара выступіла Зінаіда Іосіфаўна Раманенка.

Пасля ўрачыстай часткі адбыўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел ансамбль «Барвінак» з Нова-Віташынскага раёна Кіеўскай вобласці, настаўнікі і вучні мясцовай школы.

## ад пятніцы да пятніцы

# У ГЭТЫЯ ДНІ...

### ...ВЕЧАР ДРУЖБЫ

прысвечаны Дню адраджэння Польшчы, адбыўся ў Палацы прафсаюзаў. Цёпла сустрэлі прысутныя члена прэзідыума Галоўнага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы Станіслава Вішнеўскага, старшыню праўлення раённага аддзялення Таварыства польска-савецкай дружбы ў горадзе Прушкове дырэктара завода школьных пісьмовых прылад Антонія Гуткоўскага і іншых польскіх гасцей. Даклад аб 26-й гадавіне ПНР зрабіў намеснік старшыні праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы, старшыня Мінскага абкома прафсаюза работнікаў культуры П. У. Рублеўскі. Са словам падзякі выступіў Станіслаў Вішнеўскі.

### ...АДПРАВІЛІ

тэлеграму ў Вену са згодай удзельнічаць у міжнародным конкурсе на забудову паўднёвага раёна аўстрыйскай сталіцы архітэктары Беларусі.

Творчую брыгаду, якая будзе распрацоўваць праект новага раёна Вены, узначальвае старшыня Дзяржбуда рэспублікі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Ул. Кароль. У яе ўваходзяць планіроўшчыкі, дойліды: лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Н. Трахтэнберг, В. Анікін, кіраўнік майстэрняў Белдзяржпраекта Я. Ліневіч, загадчык аддзела планіроўкі і забудовы гарадоў Дзяржбуда БССР Ю. Патапаў і іншыя.

### ...ВЫСТУПІЛІ

ў Вільнюсе на рэспубліканскім свяце песні і танца, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна і 30-годдзю вызвалення Літвы самадзейныя артысты Віцебскага ансамбля танца «Колас».

Шматлікія гледачы, што запоўнілі цэнтральны стадыён, цёпла сустрэлі беларускія танцы «Каханачка», «Антон маладзенькі», «Язвінскія ўзоры», «Беларускую рапсодыю».

### ...ПАСЛЯ ДОЎГАГА ПЕРАПЫНКУ

ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР адкрылася пастаянная экспазіцыя Беларускага савецкага мастацтва. На ёй прадстаўлена каля ста твораў паслякастрычніцкага перыяду развіцця беларускага мастацтва. Тут жывапіс, графіка, скульптура. Сярод работ такія, як «Партрэт дачкі» старэйшага мастака рэспублікі М. Станюты, «Раніца» Ул. Кудрэвіча, «Аўтапартрэт» і «Шавец-камсамолец» Ю. Пэна, «Мінск. 3 ліпеня 1944 года» В. Волкава, «Палонных вядуць» А. Шыбнёва, «Партрэт Героя Савецкага Саюза Ф. Смалячкова» З. Азгура, вядомая конная статуя Льва Даватара А. Глебава, работы І. Стасевіча, М. Савіцкага, В. Цвірко, І. Ахрэмчыка і іншых.

### ...АДБЫЎСЯ

чарговы выпуск прадаўцоў кніг у Мінскім гарадскім прафесіянальна-тэхнічным вучылішчы № 32. Праз некалькі дзён 31 выпускнік прыступіць да работы ў кнігарнях рэспублікі.

Дарэчы, за апошнія пяць гадоў вучылішча падрыхтавала больш 300 спецыялістаў кніжнага гандлю. Палова з іх працуе ў гандлёвых арганізацыях Мінска і вобласці.

# АЎТАР «ЧЫЖЫКА БЕЛАРУСКАГА»

Споўнілася 90 год з дня нараджэння беларускага паэта-нашаніўца Гальяша Леўчыка (Ляўковіча), які нарадзіўся ў горадзе Слоніме 20 ліпеня 1880 года.

Гальяш Леўчык хадзіў у прыходскую школу, а потым у так званую павятовую, якую і скончыў. З 1896 года служыў у канцылярыі міравога суддзі і з'езду міравых пасрэднікаў. Потым працаваў у якогась каморніка. У 1904 годзе пераязджае ў Варшаву і працуе ў гарадскім магістраце. Тут жа ходзіць на лекцыі ў школу мастацтва. Прымаў удзел у грамадскім жыцці варшаўскіх беларусаў. Па некалькі месяцаў у год жыў у родным Слоніме.

Гальяш Леўчык пачаў друкавацца ў «Нашай ніве». У 1912 годзе ён выдаў зборнік вершаў «Чыжык беларускі». Падрыхтаваны ім другі зборнік «Беларускі жаўранак» (вершы (1920—1927 гг.) не ўбачыў свету.

У перыяд знаходжання заходніх абласцей Беларусі пад белапольскай акупацыяй паэт супрацоўнічаў у заходнебеларускіх газетах і часопісах.

У верасні 1939 года ў Слонімскім народным доме Гальяш Леўчык вітаў байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі і дзякаваў за вызваленне Заходняй Беларусі ад панскага прыгнёту.

8 кастрычніка 1939 года ў Слонім прыязджаў старшыня Саюза пісьменнікаў БССР Міхась Лынькоў, якога Гальяш Леўчык вітаў ад свайго імя і ад імя заходнебеларускага літаратурнага маладняка.

14 лістапада 1939 года мне пашанцавала суправаджаць Янку Купалу да Гальяша Леўчыка, з якім яго звязвала даўняе сяброўства з часоў «Нашае нівы». Наш пясняр ехаў з Народнага Сходу ў Беластоку і спецыяльна заехаў у Слонім, каб пабачыцца са старым сябрам.

У вершы «Мая прадмова» да зборніка «Чыжык беларускі» Гальяш Леўчык пісаў:

Нічога не хачу... нічога, нічога —  
Ні грошай, ні славы, ні шчасця сляпога...  
А толькі ўсё жду я, каб родная мова  
Хутчэй дачакала свабоднага слова!  
Пакуль не дажджуся багацця такога —  
Нічога не хачу... нічога, нічога!

Гэты шчаслівы час паэт убачыў ненадоўга. Не давялося яму пакарыстацца воляй, якую прынесла працоўным Заходняй Беларусі Чырвоная Армія ў незабыўным верасні 1939 года і якую ён так сардэчна вітаў, не давялося пабачыць сённяшні росквіт роднай Беларусі. Паэт памёр у 1944 годзе ў акупіраванай Варшаве.

Прапаную ўвазе чытачоў некалькі вершаў паэта-нашаніўца.

С. НОВІК-ПЯЮН.

Гальяш ЛЕЎЧЫК

## ЧЫЖЫК

— «Чыжык, чыжык, дзе  
ты быў»?  
— «Я на Белай Русі жыў:  
Бачыў слёзы, жалю крык,  
Як гаруе там мужык...»  
— «Чыжык, чыжык, дзе  
ты быў?  
Што ты чуў там, што рабіў?»  
— «Сярод вёсак я лятаў,  
Песні сумныя збіраў...»  
— «Чыжык, чыжык, дзе  
ты быў?  
Што ты бачыў, што ты сніў?»  
«Ох, шмат гора ёсць там, шмат,  
Выглядае беднасць з хат...»  
— «Чыжык, чыжык, дзе  
ты быў?»  
«Па магілках я блудзіў,  
Па курганах, ля дарог  
З жалю вытрымаць не мог!..»

## НІХТО МАІХ НЕ ЗНАЕ СЛЁЗ...

Ніхто маіх не знае слёз,  
Што ў сэрцы схованы глыбока,  
Проч роднай хаты там—далёка,  
Дзе я радзіўся, бегаў, рос;  
Дзе йшоў касцоў праз горы,  
долы  
Зык-звон вясёлы.  
Ніхто маіх не знае слёз,  
Ніхто маёй не знае долі,  
Апроч крыніцы тэй—у полі,

# ХЛОПЕЦ, ЯКОГА ВЕДАЮЦЬ



Пра Міхаіла Хадана мне больш гаварылі людзі. Сам ён сказаў толькі:

— У кожнага сваё захапленне...

І я яго зразумеў. Рана ці позна кожны, урэшце, знаходзіць менавіта той жыццёвы занятак, які і па душы, і па сэрцы.

Міхаіл Хадан — кінамеханік. Ці падабаецца яму яго работа, ці добры ён спецыяліст — пра гэта, здаецца мне, многае скажуць дзве граматы абласнога ўпраўлення кінематаграфіі, грамата Дзяржкамітэта па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў СССР, юбілейны ленінскі медаль «За доблесную працу»...

Не любячы работы, чалавек не змог бы да раніцы корпацца ля апаратуры, каб толькі голас яе стаў чыстым і бадзёрым, не мог бы свяціцца такой шчырай радасцю яго твар, калі хто з гледачоў скажа:

— Добры фільм ты прывёз, Міша. Пабольш бы такіх...

За 8 гадоў работы ён ніколі не меў нараканняў ні ад начальства, ні ад гледачоў. Не было выпадку, каб па яго віне сарвалася дэманстрацыя фільма, каб не была своечасова прывезена і «пракручана» тая стужка, што планавалася. А гэта, між іншым, не так проста, як здаецца. Ён жа працуе не на стацыянары, а на кінаперасоўцы, і адлегласць паміж вёскамі Забалоцце, Сіняло, Лугава-Слабада, якія М. Хадан абслугоўвае, не малая, і дастаўку кінастужак з горада трэба звычайна «арганізоўваць» самому. Не малая ў яго і грамадская работа: член мясцкома галаўнога кінатэатра, член камітэта камсамола, капітан зборнай футбалістаў саўгаса.

А сакратар партарганізацыі саўгаса «Волма» Яўген Нічыпаравіч Хлопак расказаў нам такі выпадак:

— Рашылі мы арганізаваць вучобу жывёлаводаў, паляводаў і механізатараў. Папрасілі Міхаіла, каб дастаў парачку тэматычных стужак. Заняткі ж пойдуць цікавей... Дык ён прадэманстраваў не «парачку», а 28 фільмаў на сельскагаспадарчыя тэмы.

Але больш за ўсё, зразумела, задаволены людзі камсамольцам Міхаілам Хаданам як кінамеханікам. Бо ён не толькі дэманструе фільмы, а яшчэ абавязкова раскажа перад пачаткам сеанса пра змест фільма, параіць, на якія дэталі звярнуць асаблівую ўвагу, назаве артыстаў, якія добра справіліся са сваімі ролямі, а якія, на яго погляд, маглі б сыграць і лепш... Старому — ён знойдзе зручнае месца, маладых — па-сяброўску прысароміць, калі іх паводзіны чамусьці яму не спадабаюцца.

Зайдзіце ў любы клуб, што ён абслугоўвае, і вы абавязкова ўбачыце зроблены яго рукамі стэнд «Сёння на экране». А на ім — ілюстрацыі з усіх фільмаў, што маюцца на абласной базе кінапракату. І калі вы хоць крышачку затрымаецеся каля іх, то абавязкова да вас падыдзе Міхаіл Хадан. Падыдзе і спытае:

— Бачыў гэты вось, не? Цудоўны фільм! Абавязкова прыходзь, скора прывязу...

В. ТАТАРЦАЎ.  
Фота М. БУГЛАКА.

Аляксандр РАМАНАЎ

# БУРШТЫН



МАЕ ЗЕМЛЯКІ з вёскі Відуйцы выраішылі скласці жыццеапісанне аднавяскоўцаў, сярод якіх — вучоныя, урачы, настаўнікі, партыйныя і савецкія работнікі, буйныя военачальнікі, дзеячы культуры. Ёсць і такія, што не выйшлі ні ў генералы, ні ў кандыдаты навук. Усё жыццё яны заставаліся земляробамі, кавалямі, сталярамі, садоўнікамі. Мой расказ—пра дваіх з іх.

**ПЕРШЫ—**

Радзівон Еўдакімавіч Пшэкін. Быў ён для дзятвы ўвасабленнем шчодрасці, дабраты. Кожнага, хто праходзіў улетку міма яго саду, спыніць, бывала:

— Гэй, дзядзька, можа яблычка даць?

Дзядзькам ён жартам называў кожнага.

Сад у старога быў вялікі, але дагледжаны. Яблыні і грушы раслі каранастыя, стаялі на падпорках, каб не рухнуць пад цяжарам ураджаю. Мініяцюрнай вёсачкай выстраіліся пчаліныя хаткі.

Стары нярэдка частаваў дзяцей мёдам.

— Ты на яе не сярдуй, на пчолку, — угаворваў ён. — Пчала працаўніца. Ляціць, спяшаецца, а тут ты гультаём сланяешся. Ну яна і — джыг! Пройдзе!..

Частаваў ён і цікавымі гісторыямі, якія апавядаў па-свойму, скупа, але ярка. Аднойчы расказаў эпізод з імперыялістычнай вайны:

— Нас чацвёра ў засадзе. Бачым— немцы паўзуць. Падлічылі — дванаццаць. Па тры на брата. Ну, стрэлілі па тры разы...

Памятаю дзеда Радзівона і сярдзітым, неразгаворлівым. Ён адкрыта злаваў і гнаў нас, калі мы, нібы зачараваныя, пазіралі цераз плот, як ён без маскі аглядаў пчол ля раскрытага вулля.

Любіў ён працаваць сцішана, у адзіночку. Лапаць спляце, бывала, для самадзейных артыстаў — залюбуешся. Градкі ў мажары, тронак у рыдлёўку, сякерышча — любое сялянскае начынне рабіў лёгка, трывала, прыгожа, і надзіва зручнае было яно ва ўжытку. Яго ўменне служыла ў сялян меркаю вышэйшай пахвалы: «О, гэта ў цябе ўдалося, як у Родзькі»...

Стары быў сталяром. Дрэва ён любіў і ведаў так, як ніхто, нібы ў душу яму заглядваў. Калі брусок падабаўся яму, ён ажно гладзіў яго пяшчотна шурпатай цёплай далоняй. Аднойчы хлапчукі расціснулі маю балалайку. Паламаную клёпку дзед Радзівон замяніў, і мы не здолелі пазнаць, якая з клёпак новая.

Стары быў непісьменны, але разумеў будаўнічую справу тонка. Ведаў запас трываласці драўніны розных парод на згібанне, пералом, сцісканне, расцягванне, якое дрэва на што вартае. Рабіў свае разлікі на вока, нейкае шостае пачуццё і вопыт не падводзілі яго ніколі.

З году ў год сачыў ён за навакольнымі лясамі, нібы гадаваў іх. Не выпадкова, сустрэўшы аднавяскоўца, які вёз дрэва, распачынаў гаворку:

— Гэта ў Фесіне, ля балота ссеклі? Бачу — там. Такую маладую палку сапсаваў. Праз гадоў колькі была б калода і а дошкі..

Незадоўга перад вайною ён задумаў раскопкі на беразе Алешні — неішырокай рачулкі. За дзесяткі метраў ад ракі ў канцы старой грэблі засталася старыца, названая чамусьці Вінніцаю. У сівую старажытнасць Алешня тут выгіналася, а ля самай вады, паводле падання, стаяў млын, які належаў пану.

Капаў Пшэкін тыдні два. Знайшоў чатыры доўгія пакладзеныя вянцом яловыя бервяны, якія і выцягнуў з дапамогаю аднавяскоўцаў. Жоўтачорныя, шакаладнага адцення, яны і на дрэва не былі падобныя — нібы цуд з'явіўся з далёкай мінуўшчыны. Тут жа, на беразе, адпілавалі цуркі. Стукнулі сякераю — золатам пырснулі палавінкі на сонцы.

— Бурштын!

У апошнія гады жыцця Радзівон Еўдакімавіч нібы ўсох. Бровы і вусы зрабіліся зусім белыя, парадзелыя валасы на галаве таксама пабялелі. Толькі ясныя, глыбока пасаджаныя вочы глядзелі з-пад густых броваў, як і раней усмешліва, мудра, па-дзіцячы чыста. У іх свяцілася дабрата і ранейшая цікаўнасць да ўсяго.

З крыўдаю расказваў, як засмуцілі яго на старасці.

— Старшыня калгаса можа і гаспадар. А ўсё ж сярдзіты я на яго. Прыбег да мяне: «Дзядзька Родзька, справа ёсць, мажары трэба адрамантаваць. Тапчыся паціхеньку ў двары». Ну, адрамантаваў пяць мажараў. Ён зайшоў, буркнуў брыгадзіру: «Запішы сем працадзён», — і з двара. Захварэў я з прыкрасці. Стараўся, а ён і слова добрага не сказаў. Працадні — і ўвесь сказ. Раней думаў прасіць, каб далі мне хлопца кемлівага, якому перад смерцю навуку сваю перадаў бы: сын жа мой загінуў. А пасля расхацелася. Хочаш не хочаш, а так атрымліваецца: чаму мяне бацька навучыў, тое са мною разам людзі ў труну пакладуць, сабе не пакінуць. Вось чаго шкода...

Такі быў Радзівон Еўдакімавіч.

**ДРУГІ—**

Міхаіл Паўлавіч Войтаў, каваль. Быў ён высокі, хударлявы, трошкі прыгорблены. Твар вузкі, квадрацік вусоў на верхняй губе, акуляры ў тонкай жоўтай апраўе. Знешне зусім не падобны на Пшэкіна, але ў адносінах да справы і да людзей у іх было шмат агульнага.

Работа кепская проста зневажала яго: «Рукі паадбіваць бы за такое...» — гаварыў ён.

Бывала, яшчэ ў пачатку зімы Міхаіл Паўлавіч гаварыў брыгадзіру:

— Прывёз бы плугі ды бароны ўпору, я памалу і даводзіў бы іх...

Той, ахоплены клопатам, адмахваўся: плугі і бароны пацерпяць. А ў сакавіку прыбягаў сам:

— Выручай, Паўлавіч, у поле хутка...

— Не выручу, хай цябе знімуць з работы хоць раз, — помсліва адказваў каваль і чытаў брыгадзіру доўгую натацыю. Пачытае і — выручыць. Ад цямна да цямна стаяў ля гарачай накавальні, памочнікаў марыў. Дзівіліся яны, адкуль столькі сілы і вынослівасці ў кволым целе?

Неўправарот работы набягала ў калгаснага каваля ў гарачае лета. Усялякую машыну лячыў «жалезны доктар», умудраўся зрабіць любую гайку для машыны.

Рытм кузні быў рытмам калгаснай гарачай пары. Не перадсвітальныя песні пеўняў, а звон накавальні будзіў відуйчан. Званочны дуэт малаткоў, патроены рэхам, уладарна плыў над ракою ў густым алешніку, бянтэжыў салаўёў. Нізка вухкае кувалда малатабойца, у такт ёй залівіста, танкагалоса паттаквае малаток каваля: так-вось, так-вось, так-вось!

Вядома, сельская кузня даваеннага часу — учарашні дзень калгаснай вёскі, які адышоў у нябыт. Але было ў рабоце Міхаіла Паўлавіча вечна сучаснае, цяперашняе — жаданне прынесці людзям радасць сваёй работай, пранікненне ў жыватворчы працэс працы, што давала доўгае жыццё яго вырабам. І не было ў вёсцы хаты, якой не служылі б зробленыя ім кручкі на дзвярах, засаўкі, клямкі, завесы, колцы. Навечна ўсё было зроблена.

У вёсцы жыла думка пра каваля, як пра яхіднага і кплівага. Ён нікому не спускаў слабасці, прамашкі.

Неяк відуйчанін Парфен Крупадзёраў, чалавек невялікага росту, крываногі, з чорнабурай шырокай барадой, таўстым шызым носам, прыйшоў у кузню наварыць джала сякеры і прынёс іржавы кавалак жалеза. Чалавек быў недаверлівы, скарэдны, вечна баяўся, каб яго, крый божа, не ашукалі. «Ты — мне, я — табе: з рук у рукі — і квіт», — гаварыў ён пры разліку, за што яму і далі мянушку «Квіт».

— Добра, навару, а што ты мне дасі за гэта? — у водсвеце горна бліснуў Міхаіл Паўлавіч усмешкай. Усе чакалі пацехі.

— Жалеза я сваё прынёс, — паспешліва прамовіў Квіт. — Возьмеш толькі за работу...

Міхаіл Паўлавіч узяў у рукі жалеза, паказаў прысутным — гэта быў кавалак ад восі.

— Слухай, Квіт, дзе дастаў гэты цуд?

— Капаў агарод, а яно аб лапату — бразь! Нагнуўся, падабраў. Вось і спатрэбілася, лішняга не буду плаціць...

— Так, сталь адменная. На сякеру непрыгодная: сухая, крохкая. На сякеру іншую знайду, а гэта на зубіла сабе пакіну. Добра?..

Квіт не падазраваў, што яго разыгрываюць. Прагна заблішчэлі вочы. Ён амаль выхапіў у каваля шчаслівую знаходку, заўпарціўся:

— Калі жалеза ўдзяўбе, дык дрэва ж больш падатлівае...

Па складу розуму Міхаіл Паўлавіч быў філосафам. У яго садзе з паўночнага боку дома стаяла невялікая павець ад дажджу, і там жа — тапчан. Тут мы, школьнікі, часта слухалі Міхаіла Паўлавіча.

Імжэў ціхі летні дождж, ледзь чутна шапочучы ў лісці дрэў. Пад павеццю было неяк асабліва ўтульна. Міхаіл Паўлавіч злавіў у вялікую далонь некалькі халодных кропель са страхі, сказаў:

— Сад купілі і перасадзілі старым. Каб яблыні не высахлі, абсеклі голлі... Людзі смяяліся: сад — не

І вербаў сумных, і бяроз,
Старэнькай грушы у садочку,
Старых кляночкаў.
Ніхто маіх не бачыў слёз,
Ніхто не знаў мяне ў нядолі...
Апроч тэй пасекі пры полі,
Апроч ракі, плытоў і лоз,
І тэй дарожкі, што пры рэчцы
Шнурком пляцецца.
Ніхто не знае... проч магіл,
Што траўкай — мохам
зарастаюць,
Што столькі сумных дум
хаваюць,
Нязбытых дум, прапаўшых сіл...
Дзе жджэ мяне дзярна ўзгор
чысты
На сон вячысты...

1912 г.

сад, рагачы бабам гаршкі вешаць. Потым ад рагачоў голлі паперлі. Вунь на той я васемнаццаць гатункаў прышчапіў. Нічога, ужываюцца. Так і людзі павінны ладзіць на адным дрэве жыцця. А іншы таго не цяміць...— Памаўчаўшы, ён нечакана спытаў: — Хто выдумаў арцель? Ну, калгас? Вось і не ведаеце. Думаеце, бальшавікі выдумалі арцель? Няпраўда! Яны яе не выдумлялі. Жыццё! Так, так! Ведаеце талаку? Здаўна яна. Дапусцім, ты хату ставіць задумаў. Аднаму цяжка. Клічаш людзей на талаку. Сыходзіцца на тваім падворку паўвёскі. Да вечара хата гатова. Выставіць гаспадар што выпіць-закусіць — добра, няма чаго выставіць — і за гэта дзякуй. Кожны разумее, што калі здарыцца ў яго пажар ці яшчэ што, і да яго людзі на помач прыйдуць. Гэта самая талака — і ёсць калгасны лад. А бальшавікі ўбачылі, што ў арцелі для бедалагі-мужыка выратаванне—і пабудавалі калгасы...

Быў ён і слесарам. Работа над якой-небудзь металічнай дэталлю прыносіла яму найвялікшую асалоду. У двары, пад пласторнай павеццю была ў яго невялікая майстэрня. На шырокім варштаце з тоўстай дубовай плашкі прымацаваў сабе цісочкі. Над імі, паблісваючы змазкаю, навісаў са сцяны невялікі свідравальны станок. У спецыяльных скрынках варштата ляжалі ўсякія інструменты: рэзаць, свідраваць, тачыць, шліфаваць, нарэзваць разьбу, вымяраць і да т. п.

Цягнулі людзі сюды рамантаваць усё, што калі-небудзь трапляла ў вёску. І ніхто не пытаў, ці справіцца Міхаіл Паўлавіч. Аднойчы я рашыўся сказаць яму пра гэта. Мінуты са дзве ён маўчаў, працуючы. Леркатрымальнік лёгка і плаўна хадзіў у яго руках, і здавалася, рэзаў не метал, а масла: крок наперад — паўкрока назад. Потым адказаў няпэўна:

— Рамантаваць трэба ўсё. Павінен жа нехта для відуйчан па жалезе майстраваць... Вось так, браце, спрадвеку вядзецца. Трэба нешта людзям, значыць і мастак павінен знайсціся такі. Іншы пражыве век, а не ведае, які чорт у ім сядзіць. А каб жа кожны варушыў мазгамі? То-та ж...

— А грэчаская каралева? — прыгадаў я старое апавяданне Міхаіла Паўлавіча аб тым, як служыў ён калісь у марскім флоце, як аднойчы карабель прышвартаваўся на Кіпры, і там матросы віталі грэчаскую каралеву. — Самі казалі, што баба бескарысная.

— А-а, вунь ты як мяне! Я ад сваіх слоў не адмаўляюся. А вось Пётр Першы — сапраўдны кароль быў.

— Цар, а не кароль?

— Цар, кароль... Не ў тым справа. Пачалі лічыць яго першым чалавекам у дзяржаве, ён і знайшоў у сабе царскія здольнасці.

— Чаму ж у каралевы не знайшлося? — напіраў я.

— У яе спытай. Кожны дурань мог стаць царом, ды не кожны цар быў дурань. — Ён дастаў з кішэні свой славуты гадзіннік «Павел Бурэ», паднёс да акуляраў. І хуценька сунуў у кішэню, зноў падыйшоў да варштата. Не любіў марна траціць ні хвіліны...

●

Такія мае землякі—Радзівон Еўдакімавіч і Міхаіл Паўлавіч. Яны не зрабілі, здаецца, вялікага геройства, але вёска Відуйцы памятае іх. Бо чалавек не праходзіць па жыцці бясследна, калі ён жыў таленавіта, шчодра, мудра, калі яго вопыт застаецца для нашчадкаў і зззяе чыстым бурштынам.

# «НА РАБФАКУ НА ВЯЧЭРНІМ...»

**ПА СЛЯДАХ СТАРОЙ ФАТАГРАФІІ**

Многа напісана пра паэму Янкі Купалы «Над ракою Арэсай», пра гісторыю яе стварэння, пра паездку паэта на Палессе.

Як вядома, у 1933 годзе на пачатку веснавой сяўбы паэт разам з Платонам Галавачом, Уладзімірам Хадыкам паехаў у камуну імя БВА, што на Любаншчыне. Мэтай паездкі было азнаямленне з тымі новымі зменамі, якія адбываліся на вёсцы. Пражыў там Янка Купала каля месяца. Да яго прывыклі, яго палюбілі.

Як успамінае былы старшыня калгаса імя БВА Эмануіл Модзін, Купала хадзіў па калгаснай сядзібе, гутарыў з многімі людзьмі, цікавіўся іх працай і побытам. Яго часта бачылі ў полі, сталовай, у дамах камунараў. Бываў ён неаднаразова і ў будучых герояў сваёй паэмы Эмануіла Модзіна, Пракопа Адзярыхі, Дзмітрыя Каленчанкі. Ездзіў у навакольныя вёскі, калгасы, саўгасы. І ўсюды, дзе з'яўляўся паэт, чуліся шчырая гутарка, вясёлы жарт, смех.



Здавалася, усё ясна адносна гэтай паездкі паэта на Арэсу. Але вось перад намі раскрываецца яшчэ адна яе дэталь.

У апошнім раздзеле «Над ракою Арэсай» — «Саўгас» — ёсць такія словы:

На рабфаку на вячэрнім
Вучацца студэнты —
Сваю цемру,
некультурнасць
Знішчаюць дашчэнту.

А рабфакаўцаў нямала —
З сем'яў больш бядачых;
А рабфакаўкі як глянуць,
Ажно сэрца скача!

Гэтыя радкі напісаны ў выніку наведання паэтам рабфака, які быў створаны ў саўгасе ў 1930 годзе пры Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце.

Аб гэтым наведанні і расказвае новы, невядомы да гэтага часу фотаздымак, на якім мы бачым Янку Купалу, Платона Галавача і Уладзіміра Хадыку сярод выкладчыкаў і студэнтаў. На адваротным баку фотаздымка надпіс: май, 1933 г.

Хочацца выказаць шчырую падзяку былому рабфакаўцу Сямёну Апанасавічу Харко ( у другім радзе, другі злева), які захаваў гэты каштоўны фотаздымак, пранёсшы праз дзве вайны — фінскую і Айчынную — і нядаўна перадаў яго ў Літаратурны музей Янкі Купалы.

Фотаздымак дае нам падставу сцвярджаць, што паэма амаль цалкам была напісана ў Камуне, у Мінску Купала, відаць, толькі дапрацоўваў яе, пераглядаў.

Пад самой паэмай подпіс: «Камуна БВА — Мінск, май, 1933 г.»

Рабфак Янка Купала наведаў у першыя дні свайго знаходжання ў Камуне. І калі лічыць, што жыў паэт амаль увесь май, то фотаздымак, напэўна, зроблены ў першых чыслах: на ім мы бачым Платона Галавача і Уладзіміра Хадыку, а як вядома, у Камуну яны прыехалі разам з Купалам і былі там нядоўга, усяго з тыдзень.

Здымак зрабіў выкладчык хіміі і біялогіі на рабфаку Кірэеў (стаіць у апошнім радзе першы справа, у акулярах).

Як трапілі Янка Купала, Платон Галавач і Уладзімір Хадыка на рабфак?

Як мяркуе былы рабфакавец С. Харко, існаванне ў саўгасе рабфака ў той час было вялікай з'явай, і абысці яго ніяк нельга было. А да таго ж, на рабфаку з першага яго набору і па 1933 год працаваў вядомы паэт Алесь Жаўрук (побач з Купалам, справа), які выкладаў літаратуру і сам у гэты час шмат пісаў. Відно, не без яго ўдзелу былі запрошаны пісьменнікі.

С. Харко ўспамінае, што пасля сустрэчы на рабфаку, вечарам, у напоўненым да адказу клубе (ён адначасова быў і сталовай), адбыўся вялікі вечар рабочых саўгаса і рабфакаўцаў, з якімі прыехалі пісьменнікі.

Я. Купала, П. Галавач, У. Хадыка расказвалі прысутным аб сваіх планах, чыталі новыя творы, у прыватнасці, Янка Купала чытаў верш «Сыходзіш, вёска, з яснай явы», тады ж ён падзяліўся і сваёй задумай напісаць паэму пра новае Палессе.

Чытаў на гэтым вечары свае вершы і Алесь Жаўрук.

Углядаючыся ў твары незнаёмых людзей на фотаздымку, я зацікавілася, як жа склаўся далейшы лёс былых рабфакаўцаў, кім яны сталі, дзе цяпер? Сямён Апанасавіч Харко пасля рабфака скончыў Мінскі інстытут народнай гаспадаркі, а потым служыў у арміі. Зараз ён афіцэр запасу, жыве і працуе ў г. Серпухаве ў гарадскім таварыстве «Веды» рэферэнтам. Ён жа паведаміў адрас яшчэ аднаго былога рабфакаўца, свайго сябра Яўгена Адамавіча Грыгаровіча, які жыве і працуе ў Мінску.

Выбраўшы вольны час, іду на вуліцу Палярную, 31, да Яўгена Адамавіча.

Гэта яшчэ даволі крэпкі чалавек, з мяккаю, прывабнаю ўсмешкаю, падцягнуты. Калі ўбачыў на фотаздымку сябе, пазнаў сваіх сяброў, выкладчыкаў, твар яго пасвятлеў.

— Спачатку рабфак не меў нават свайго будынка,— успамінае Я. Грыгаровіч, — заняткі вяліся па хатах. Толькі пазней было пабудавана вялікае памяшканне, у якім размясціліся рабфак і бальніца.

Часта да будаўнічых работ прыцягваліся студэнты. Днём працавалі, а ўвечары ішлі на заняткі. Змарыўшыся за дзень, часцяком і засыналі за сталамі. Усё ж, нягледзячы на цяжкасці, недаяданне, моладзь цягнулася да навукі. Яўген Адамавіч прыгадвае прозвішчы некаторых выкладчыкаў, студэнтаў, але дзе яны цяпер, чым займаюцца — цяжка сказаць: прайшло 37 гадоў.

— Вось Алесь Жаўрук,— гледзячы на фотаздымак, гаворыць ён, — яго ўсе мы вельмі любілі, ён выкладаў літаратуру, часта арганізоўваў вечары паэзіі. Кірэеў— выкладчык хіміі і біялогіі, ён жа захапляўся фатаграфіяй і вельмі сябраваў з Алесем Жаўруком. Студэнты: Малашук — сакратар камсамольскай арганізацыі, Носаў, Мялешка, Кацнельсон. Недзе на здымку ёсць і сястра Жаўрука — Ніна Сінічкіна. Паміж Купалам і Хадыкам сядзіць дырэктар рабфака П. У. Грышановіч.

У хуткім часе мне ўдалося адшукаць і былога дырэктара рабфака — Пятра Усцінавіча Грышановіча. Цяпер ён кандыдат навук, дацэнт кафедры палітэканоміі БДУ імя У. І. Леніна.

Фотаздымак для яго быў нечаканасцю. Пётр Усцінавіч доўга і ўважліва ўглядаўся ў твары добра знаёмых калісьці людзей, стараўся ўспомніць іх прозвішчы, дапамагчы мне.

З тых, хто працаваў на рабфаку, больш за ўсіх яму запомніўся Алесь Жаўрук, аб ім захаваліся цёплыя і сардэчныя ўспаміны.

— Гэта ён, — гаворыць Пятро Усцінавіч, — імкнуўся зацікавіць сваіх выхаванцаў літаратурай, часта арганізоўваў вечары паэзіі. Ім была створана пры рабфаку і мастацкая самадзейнасць. У ёй А. Жаўрук прымаў самы актыўны ўдзел, пісаў сатырычныя куплеты, якія разам са сваім сябрам (відаць, гэта быў Кірэеў) выконваў са сцэны. Ім жа быў арганізаваны і драмгурток: адной з першых ставілася п'еса Яўгена Рамановіча «Мост».

Запомнілася Пятру Усцінавічу і сустрэча з Я. Купалам, П. Галавачом і У. Хадыкам. У жыцці рабфака гэта было значнай падзеяй. Пісьменнікі распытвалі студэнтаў аб іх жыцці, вучобе, цікавіліся, як яны праводзяць вольны час, як сумяшчаюць вучобу з працай...

Так фотаздымак дапамог нам паглыбіць яшчэ адну старонку з жыцця народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Хочацца спадзявацца, што на яго апублікаванне адгукнуцца былыя рабфакаўцы.

**Т. ТАРАСАВА,**
в. а. дырэктара Літаратурнага музея Я. Купалы.

**З ПОШТЫ ЛІМа — З ПОШТЫ ЛІМа — З ПОШТЫ ЛІМа — З ПОШТЫ ЛІМа**

# ГЭТА — БУКВАРЫ ГІСТОРЫІ

**З сардэчнай зацікаўленасцю прачытаў я «Легенды старога Лоска» Леаніда Пракопчыка, змешчаныя ў вашым штотыднёвіку ад 26 чэрвеня г. г. пад рубрыкай «Сустрэча з адвечным».**

**Падобныя матэрыялы мяне заўсёды цікавяць і, думаю, яны наогул цікавыя. Такія публікацыі на старонках вашага выдання сустракаюцца ўжо даўно. Дзякуючы ім, я набыў нейкае падсвядомае адчуванне Беларусі, надта важнае адчуванне для кожнага беларуса. Сённяшні дзень з'яўляецца братам учарашняга дня, гісторыя-даўніна—нібы родная сястра сучаснай гісторыі. У такой непарыўнасці развіцця, мне здаецца, і трэба шукаць ключ да разумення гісторыі.**

**У сувязі з гэтым налучыла мяне думка, можа нават і запозненая ўжо: а што, каб усе такія матэрыялы сабраць і выдаць у якасці дапаможніка турыстам і тым, хто праводзіць экскурсіі! Дый не толькі для іх былі б цікавыя гэтыя рэпартажы і нарысы.**

**Чытаў я «Наднёманскія былі». Кніга нібы і добрая, але ў яе трапіла шмат і выпадковага, таго, што яшчэ не набыло цікавасці для ўсіх, пра што варта было б пісаць.**

**Займаўся і я даследаваннем гісторыі сваіх родных Крынак, што на ўскрайку Гродзеншчыны. Калі друкаваў гэтыя матэрыялы, то пераканаўся, як моцна людзі цікавяцца тым, што некалі рабілася на іх зямлі. Нібы бачылі людзі выпіскі з актаў грамадзянскага стану, дакументы, што сведчылі, адкуль чалавек і хто ён такі...**

**У нас, у Польшчы, такіх выданняў мноства, яны маланкава распрадаюцца. Попыт на іх расце з году ў год. Гэта — нібы буквары гісторыі, дзякуючы якім чалавек пачынае праяўляць цікавасць, рассмакоўваць падрабязнасці, лепш разумець «сухую» гісторыю, усведамляць месца сваё і свайго народа ў гісторыі свету. Такія матэрыялы вельмі добра дапаўняюць акадэмічныя даследаванні гісторыкаў.**

**Пішу пра ўсё гэта, бо раптам захацелася падзяліцца з вамі сваімі думкамі.**

**Шчыра ваш —**

**Сакрат ЯНОВІЧ.**
г. Беласток.

Сцяпан МАЙХРОВІЧ

# НА ДАСВЕЦЦІ НОВАГА ДНЯ

*Перачытваючы прозу Аркадзя Чарнышэвіча*

**Случчына — гэтая беларуская жытніца, край чароўных краявідаў, казак і легенд, задушэўных народных песень і гераічнага эпасу — незвычайна багатая на выдатныя таленты-самародкі. Колькі іх успаіла яна жыватворнымі сокамі народнай мудрасці! Асабліва — пісьменнікаў. Цішка Гартны, Алесь Гурло, Кузьма Чорны, Максім Лужанін, Рыгор Мурашка, Васіль Вітка, шматлікія Чарнушэвічы — паэты, празаікі, публіцысты. Сярод іх Аркадзь Чарнышэвіч [1912 — 1963] займае своеасаблівае месца, як празаік зайздроснага мастацкага таленту і шырокага сацыяльна-гістарычнага дыяпазону. Пісьменнік пакінуў свайму народу досыць багатую літаратурную спадчыну, аб асобных момантах якой ідзе гаворка ў гэтым артыкуле.**

**I.**

Аркадзь Чарнышэвіч належыць да таго пакалення беларускіх пісьменнікаў, якое прыйшло ў літаратуру напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны. У 1940 годзе часопіс «Полымя рэвалюцыі» надрукаваў цыкл яго апавяданняў «Лета». Пісьменнік быў тады адносна малады, але гэтая ягоная маладосць была памножана на багаты жыццёвы вопыт і практычную мудрасць яго самабытнага таленту, надзеленага прыроджанай схільнасцю да вобразнага мыслення — гэтага «матчынага дару» бачыць тыповыя праявы рэчаіснасці ў іх паэтычным святле і эстэтычнай прыгажосці.

На жаль, абставіны склаліся так, што нараджэнне багатае, самароднае творчае ўяўленне і зайздросная працаздольнасць адразу не ўвянчаліся для Аркадзя Чарнышэвіча радасцю і плёнам літаратурнай дзейнасці.

І толькі ў апошнія пятнаццаць гадоў свайго жыцця, пачынаючы з 1951 года, Аркадзь Чарнышэвіч мог цалкам аддацца паўнакроўнай літаратурнай дзейнасці. І яна, на шчасце, прынесла яму шмат радасці, шмат глыбокага маральнага задавальнення, —пакуль, нарэшце, не падкралася да яго невылечная хвароба.

Праўда, пісьменнік, гэты вечны шукальнік эстэтычных ідэалаў сучаснага яму жыцця, не мог, натуральна, быць да канца шчаслівым. Ён, як той неспакойны лермантаўскі герой, «рана пачаў» і, на жаль, дачасна скончыў свой творчы шлях. А ў душы яго, «як у акіяне», няздзейсненых надзей «паэтычны скарб спачыў». Пра Аркадзя Чарнышэвіча можна таксама сказаць тое, што калісьці было сказана пра Міхася Чарота: «Ён бліснуў на літаратурным гарызонце, як метэор. Бліснуў і не ў пору пагас», пакінуўшы за сабою яскравы след няздзейсненых творчых замыслаў, надзей і спадзяванняў. Пісьменнік марыў стварыць шматтомную мастацкую гісторыю беларускага народа. Гісторыю, пачынаючы ад эпохі марксізма і пралетарскага руху ў Расіі і на Беларусі і канчаючы перыядам урачыстасці сацыялізма.

Марам гэтым, на жаль, не суджана было збыцца.

Аднак і пакінутая пісьменнікам літаратурная спадчына трывала ўваходзіць у скарбніцу сучаснай шматнацыянальнай савецкай прозы. Яго ўклад у беларускую навелістыку і манументальную, эпічную прозу па свойму значны і арыгінальны.

**II.**

Ужо ў 1951 годзе выходзіць у свет яго аповесць «У роднай сям'і». Наступныя гады прыносяць пісьменніку «новыя радасці творчых мінут», калі адна за адной з'яўляюцца на свет кнігі яго апавяданняў і аповесцей. Так, у 1952 годзе ён выдае зборнік апавяданняў для дзяцей «Зосін лужок», а ў 1954 — аповесць «На сажалцы». Творчы ўзлёт пісьменніка набывае новую мастацкую сілу, новы, значна ўзмужнелы ідэйны пафас, навеяны па-свойму ўспрынятай і па-свойму, арыгінальна асвоенай рэчаіснасцю. Значнай вехай на гэтым шляху пісьменніка быў зборнік апавяданняў «Суседзі», які выйшаў у 1956 годзе.

Вельмі характэрна прытым для самога працэсу яго творчага станаўлення было тое, што пісьменнік неяк арганічна, ад прыступкі да прыступкі, узнімаўся ўсё вышэй і вышэй па лесвіцы бесперапыннага ўдасканалення свайго мастацкага майстэрства. Зусім не выпадкова творчым вынікам гэтага ідэйна-эстэтычнага поступу Аркадзя Чарнышэвіча з'явілася буйнае эпічнае палатно — гісторыка-рэвалюцыйны раман «Світанне» (1957).

Свае ўражанні і шматгадовыя назіранні «лясной Заўральскай былі», з яе адвечнымі прымхамі і забабонамі, чарамі і патрыярхальнымі перажыткамі ў свядомасці людзей, на «паверхні» якіх усплываюць цікавыя, самабытныя «ўладары пушчаў» і творцы новага жыцця, — пісьменнік увасобіў у цікавым цыкле «Апавяданняў старога Арцёма» (1958).

Гады міналі, і пісьменнік, тым часам, спяшаўся парадаваць свайго чытача новымі аповесцямі і апавяданнямі. У 1960 годзе ён выдае зборнік твораў «Праз зімы і вёсны», у 1961 годзе — блізкую да аўтабіяграфічнай кнігу навел «Новы дом». Аўтар паглыбляецца ў далёкае мінулае, паказвае суровую ўральскую тайгу, а поруч — жыццё калгаснай вёскі, стварае вобраз новага, савецкага інтэлігента. У цэнтры ўвагі пісьменніка — духоўны свет чалавека працы, яго гуманізм і высакародныя патрыятычныя імкненні. І як бы ідучы ў сваім творчым станаўленні ад адзінкавага да ўсеагульнага — ад навелістычнай мініяцюры да сюжэтна больш разгалінаванага, «ступеньчатага» апавядання і шматпланавай аповесці, — пісьменнік завяршае, фактычна, свой творчы шлях у пачатку 60-х гадоў новым буйным сацыяльна-гістарычным раманам «Засценак Малінаўка».

Раман быў задуманы, як трылогія, але, на вялікі жаль, застаўся няскончаным. Пісьменнік паспеў напісаць толькі першую кнігу. І кніга гэтая парадавала чытача сваімі высокімі мастацкімі вартасцямі і багатай сацыяльнай фактурай, у якой праўдзіва адбілася ў вобразнай форме ленінская канцэпцыя гістарычнага развіцця Расіі і Беларусі напярэдадні руска-японскай вайны і ў наступныя гады.

Забягаючы крыху наперад, скажам, што засценак Малінаўка — гэта зборны вобраз абкрадзенай грабежніцкай рэформай 1861 года беларускай вёскі пачатку XX стагоддзя. Як аб'ектыўны мастак-летапісец свайго народа, аўтар намаляваў яскравыя карціны жыцця. На карцінах гэтых, поруч з даведзенымі да адчаю катаржнай працай «ад цямна да цямна» батракамі і падзёншчыкамі, праходзіць цэлая галерэя многіх і розных кулакоў-міраедаў і іх саюзнікаў. Усе гэтыя яўхімы халусты, хаімы ножыкі, разам з чужаземцам-грабежнікам Гендэрсанам — характары тыповыя па сваёй звярынай натуры эксплуататараў і крывасмокаў вясковага пралетарыята.

Чытач бачыць далей, як сам унутраны працэс сацыяльна-эканамічнага развіцця краю ўладарна штурхаў перадавых, найбольш свядомых людзей да аб'яднання, да падсвядомага, магчыма, на першых кроках, адзінства дзеяння супраць прыгняттальнікаў і самога царызму.

І пісьменнік-рэаліст, узброены марксісцка-ленінскай ідэалогіяй і аб'ектыўным поглядам на жыццё, не мог абысці заканамерныя працэсы палітычнага выспявання грамадскай свядомасці людзей працы — вясковых пралетарыяў. І мы прысутнічаем далей ужо не ў засценку Малінаўка, а ў маёнтку Чыжова, дзе ствараецца сацыял-дэмакратычная група на чале з такімі добра выпісанымі характарамі, як Павел Квітун, Якаў Шэмет, Станіслаў Вярбіцкі...

Дачытваючы першую кнігу трылогіі «Засценак Малінаўка», чытач не без шчырага жалю пашкадуе, што гэтае манументальна задуманае сацыяльна-гістарычнае палатно раптам абарвалася, як і жыццё самога пісьменніка.

**III.**

Але, пры ўсім гэтым, творчы ўклад Аркадзя Чарнышэвіча ў сучасную беларускую прозу па-свойму значны і глыбока своеасаблівы па самой самабытнай прыродзе яго мастацкага даравання. Ён прыйшоў у літаратуру са сваімі вобразамі і тэмамі, са сваімі, яму аднаму ўласцівымі ідэйна-эстэтычнымі ідэаламі і спелымі, умудронымі багатым жыццёвым вопытам поглядамі на сацыяльную рэчаіснасць. У яго арыгінальным літаратурным таленце шчасліва спалучаліся, кажучы словамі В. Р. Бялінскага, «два рэалізмы»: рэалізм праўдзівага адлюстравання сучаснай яму сацыялістычнай рэчаіснасці і рэалізм аб'ектыўнага паказу далёкага гістарычнага мінулага, скрозь якое ярка свеціцца свабодалюбівыя імкненні народа, яго высакародныя думы і пачуцці, гуманізм і своеасаблівыя рысы нацыянальнага характару. Варта толькі «ўчытацца» ў «Апавяданні старога Арцёма», уважліва прасачыць за станаўленнем характараў герояў «Новага дому» і многіх іншых зборнікаў пісьменніка, каб навочна ў гэтым пераканацца. Гэтая спецыфічная мастакоўская, ідэйна-эстэтычная тэндэнцыя дасягнула вяршыні свайго развіцця ў такіх буйных эпічных палотнах Аркадзя Чарнышэвіча, як раманы «Світанне» і «Засценак Малінаўка».

Перад намі, як бачым, пісьменнік своеасаблівага, яму аднаму ўласцівага мастацкага таленту. Ён трывала ўвайшоў, скажам без перабольшання, у гісторыю беларускай літаратуры, па-першае, як выдатны навеліст, майстра класічнага па сваёй фармальнай строгасці і паэтычнай абаяльнасці апавядання і, па-другое, як пісьменнік зайздроснага эпічнага даравання з яскравай адзнакай манументалізму і досыць высокай раманічнай культуры.

Для так званых «малых празаічных форм» пісьменніка, для іх апавядальнай інтанацыі характэрны, перш за ўсё, глыбокі псіхалагізм і ў меру вытрыманая эмацыянальная насычанасць вобразаў і малюнкаў. Як паслядоўны рэаліст, ён далёкі ад «нарачытай авантурнасці» і ўяўнай «займальнасці». Стройна пабудаваны, звычайна «ступеньчаты», сюжэт заўсёды знаходзіцца ў гарманічнай суладнасці з развіццём падзей і іх адлюстраваннем, угрунтаваным на задушэўнай ліра-эпічнай аснове. Пісьменнік умее пры тым глыбока заглядваць у душу і свядомасць сваіх герояў. Ён надзелены вострым, пранікнівым вокам і наскрозь бачыць і хараство чалавечай душы, і яе чорныя плямы, якія балюча кранаюць за сэрца пісьменніка-гуманіста, шчырага чалавекалюбца, закаханага ў высакародную прыроду людзей працы.

**IV.**

Пісьменнік ніколі пры тым не навязвае сваіх рытарычных сентэнцый і маральных павучанняў. Сама манера яго вобразнага пісьма выключае падобную вульгарную тэндэнцыйнасць. Ён строга прытрымліваецца класічнай традыцыі мастацкага адлюстравання: аб'ектыўна малюе праўдзівы, жывўцом выхаплены з жыцця вобраз, пакідаючы за чытачом права рабіць свае маральныя вывады, мець свае ўласныя эстэтычныя меркаванні і ідэйныя пасылкі. Характэрна пры гэтым, што пісьменнік неяк неўзначай, здаецца, самім натуральным развіццём дзеі і яе адлюстраваннем «падводзіць» чытача да аб'ектыўных высноў па прынцыпе: я, маўляў, намаляваў вобраз, а вывады? Вывады няхай робіць сам чытач.

Каб навочна пераканацца ў гэтым, дастаткова, скажам, пазнаёміцца хоць бы з такімі апавяданнямі Аркадзя Чарнышэвіча, як «Лясная быль», «Калінішын зяць», «Стары «Арцём», з цыклам навел са зборнікаў «На сажалцы», «Праз зімы і вёсны», «Суседзі».

Апавяданні гэтыя можна, не рызыкуючы памыліцца, упэўнена назваць «маленькімі раманамі», — настолькі яны глыбокія па сацыяльным змесце і абаяльныя па лірычнай цеплыні. Больш таго, яны арганічна суладныя па цікава задуманым і дынамічна развітым сюжэце, значныя, нарэшце, па самабытных характарах станоўчых чалавечых вобразаў (стары Арцём) і адмоўных (Калініха), а то і проста варожых тыпах (Маразюк, ксёндз-дыверсант з аповесці «На сажалках» і інш.).

Звяртае пры тым на сябе ўвагу эпічна-спакойная танальнасць апавядання і глыбокая зацікаўленасць аўтара лёсам сваіх герояў. Ён заклапочаны сцвярджэннем новых сацыялістычных пачаткаў у быце людзей, пільна сочыць за ростам іх культуры і матэрыяльнага дабрабыту. Чалавек павінен быць варты сваёй велічнай эпохі і тых гістарычных прадвызначэнняў, што выпалі на яго долю як творцы камуністычнага грамадства, — кажа, аўтар духам і зместам сваёй творчасці.

Носьбітам станоўчых маральных ідэалаў з'яўляецца Раман Хмель, «Калінішын зяць». Ён паўстае перад чытачом, як чалавек новай, савецкай фармацыі, новай маралі, перадавых палітычных перакананняў і прагрэсіўных імкненняў. Раман выхаваўся ва ўзорнай працоўнай сям'і. Ён прызвычаіўся «сам зарабляць сабе на хлеб». Таму і ненавідзіць абібокаў і дармаедаў, «хцівых да стала працоўнага чалавека» і пажадлівых на яго «запрацаваны хлеб».

Антыподам Рамана Хмеля з'яўляецца Калініха, «баба злая, і ханжа ліхая». Усё жыццё сваё яна «праматала крутнёю і падманамі». Пры фашыстах муж яе быў паліцаем, «нават парабкаў трымаў», пакуль яго «не напаткала партызанская куля». Пасля вайны Калініха «прыкінулася ўдавою загінутага мужа» і бессаромна пачала «абіваць парогі» савецкіх устаноў. Яна скардзілася на «мужанягодніка», які быццам «здзекваўся з яе неміласэрна». Гэтая «скнара і ханжа» зразумела, што, адхрышчваючыся ад мужа-паліцая, можна тое-сёе здабыць, бо крутнёю ўсё ж такі «лягчэй пражыць», чым сумленнай, карыснай працай.

Зусім зразумела, чаму такая чыстая і светлая натура, як Раман

# УСЕ РОЛІ ІГРАЕ... Андрэй МАКАЁНАК



Паглядзіце на гэтыя кадры, знятыя Ул. Крукам у Акадэмічным тэатры імя Я. Купалы, калі там адбылася сустрэча калектыву з Андрэем Макаёнкам: аўтар «падказвае», робіць намёк на тое, як варта іграць сцэну, а тут і сам захапіўся...

 СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# ПУЦЯВІНАМІ XIX СТАГОДДЗЯ

ЛІТАРАТУРАЗНАЎЦА Адам Мальдзіс запрасіў чытачоў зрабіць разам з ім падарожжа ў XIX стагоддзе. І трэба адразу сказаць, што падарожжа гэта — вельмі плённае, бо вяртаешся з яго ўзбагачаным новымі ведамі з гісторыі беларускага народа, яго літаратуры, мастацтва і культуры.

У XIX стагоддзі, асабліва ў першай яго палове, умовы для сацыяльнага і культурнага развіцця беларускага народа заставаліся цяжкімі. Хаця Беларусь ўвайшла ў склад Расіі, што, безумоўна, было вялікім прагрэсіўным актам, яна па-ранейшаму заставалася пад прыгнётам польскіх магнатаў. Польскія паны знайшлі надзейную ахову пад самадзяржаўнай уладай рускага царызму. Цар, імкнучыся зрабіць з польскіх паноў цвёрдую апору сваёй улады ў новадалучанай Беларусі, ішоў з імі на згоду. З кнігі А. Мальдзіса мы даведваемся, што Аляксандр І лёгка дараваў многім польскім магнатам іх удзел у паўстанні Касцюшкі і вярнуў ім канфіскаваныя раней маёнткі з дзесяткамі тысяч прыгонных беларускіх сялян. Разглядаючы верш Я. Баршчэўскага «Рабункі мужыкоў», даследчык адзначыў, што ў аснову яго быў пакладзены праўдзівы выпадак, калі па загадзе французаў сяляне рабавалі маёнтак пана, які ваяваў супраць Напалеона. Такія выпадкі былі рэдкімі. Тыповым было тое, калі беларускія сяляне па сваёй ініцыятыве знішчалі маёнткі польскіх паноў, якія амаль пагалоўна здрадзілі рускаму цару. Аднак Аляксандр І літасціва дараваў панам іх здраду і не дараваў сялянам іх самавольнай расправы над панамі. Трагічным быў лёс рускага селяніна, які пасля вялікай перамогі над ворагам павінен быў вяртацца, па выразу А. Грыбаедава, «под палку господина». Яшчэ больш трагічным быў лёс беларускага селяніна, які павінен быў зноў падстаўляць спіну пад бізун польскіх пачоў. Яны бязлітасна высмоктвалі не толькі фізічныя, але і інтэлектуальныя сілы беларускага народа.

Вядома, у такіх жорсткіх умовах нечуванага сацыяльнага і нацыянальнага ўціску не магла б развівацца наша літаратура, калі б яна не была жывой патрэбнасцю народа, калі б з яго асяроддзя не выходзілі людзі, здольныя перамагчы ўсе перашкоды ў імя духоўнага распрыгоньвання радзімы. У гэтым перш за ўсё выявіўся гераічны бок нашага XIX стагоддзя. Як слушна зазначае А. Мальдзіс, беларускія пісьменнікі «былі першымі», хто ў «жорсткі век» скрозь гушчар рэакцыі стаў пракладваць цярністы шлях да нацыянальнага вызвалення Беларусі. Ім і прысвечана пераважная частка нарысаў кнігі. Нястомна даследуючы айчынныя і зарубежныя архівы і шукаючы выданні, што сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, аўтар знайшоў нямала новых звестак, якія даюць магчымасць у шэрагу выпадкаў па-новаму бачыць нашых першых пісьменнікаў.

Асабліва шмат каштоўнага мы знаходзім у нарысе пра Я. Чачота, якога па праву можна назваць першым беларускім паэтам XIX стагоддзя. Апроч таго, ён першы наш фалькларыст і моваЗнаўца.

Удалым трэба прызнаць арыгінальны аналіз верша Вінцэся Каратынскага «Уставайма, брацы, за дзела, за дзела!». Адмоўная ацэнка гэтага верша, як паказвае А. Мальдзіс, ішла ад тагачаснага рэакцыйнага польскага друку, які абвінавачваў яго аўтара ў згодніцтве з рускім царызмам. Даследчык адмятае гэтае сцвярджэнне. Мы пераконваемся, што верш «Уставайма, брацы, за дзела, за дзела!», хаця і быў прысвечаны Аляксандру II, аднак не меў нічога вернападданніцкага. У ім паэт выразіў высокую годнасць беларускага народа, які заявіў аб сваім праве на нацыянальнае жыццё.

У некалькі іншым асвятленні мы бачым і Аляксандра Ельскага. Ва ўсіх падручніках у ліку прадстаўнікоў рэакцыйнага кірунку ў беларускай літаратуры канца XIX — пачатку XX стст. нязменна называецца гэта імя. Сапраўды, творы А. Ельскага, вельмі нізкія па мастацкім узроўні, вызначаюцца ў дадатак і кансерватыўнасцю думкі. Аднак пісьменніцтва, як мы даведваемся, было далёка не галоўнай справай А. Ельскага. Усё жыццё ён збіраў помнікі беларускай пісьменнасці і культуры, у выніку чаго ім у сваім маёнтку быў арганізаваны багаты беларускі музей, якому давалі высокую ацэнку многія выдатныя людзі. На жаль, гэты музей быў знішчаны ў выніку першай сусветнай вайны, што з'явілася непапраўнай стратай для беларускай культуры. А. Ельскі напісаў шмат артыкулаў па гісторыі і эканоміцы Беларусі, пра беларускую мову і літаратуру. Варта ўвагі і тое, што А. Ельскі пераклаў на беларускую мову і выдаў у 1892 годзе ў Львове першую частку «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча, а таксама сабраў і выдаў зборнік беларускіх прыказак і загадак. Даючы высокую ацэнку «сумленнаму беларускаму народу», А. Ельскі ў той жа час бічаваў польскую шляхту, якая варожа адносілася да ўсяго беларускага і марнатравіла «багацці айчыннай зямлі».

Расказваючы пра пісьменнікаў XIX стагоддзя, А. Мальдзіс падкрэслівае, што амаль усе яны ў той ці іншай ступені прымалі ўдзел у вызваленчай барацьбе і таму ў іх было поўнае цяжкіх выпрабаванняў жыццё. Здача ў салдаты, турэмнае зняволенне, ссылка, катарга, шыбеніца, эміграцыя, нагляд паліцыі, матэрыяльныя нягоды — вось што выпадала на долю беларускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя ад Паўлюка Багрыма да Адама Гурыновіча. Гісторыя беларускай літаратуры гэтага часу — сапраўды суцэльны мартыралог. Але самым трагічным для беларускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя была немагчымасць друкавацца на роднай мове. Адсутнасць беларускага друку з'яўлялася галоўнай перашкодай у развіцці тагачаснай беларускай літаратуры (літаратуры таго народа, які ў свой час быў адным з піянераў кнігадрукавання). А. Мальдзіс прыводзіць выказванне аднаго польскага шавініста, які ўбачыў вялікую небяспеку для класавых інтарэсаў і нацыяналістычных імкненняў польскіх паноў з боку беларускіх вершаў В. Каратынскага: «Калі песні Каратынскага прыжывуцца ў народзе, калі народ, які прыгнятаецца шляхтай, узненавідзіць яе, то ў гэтым загінуць нашы надзеі быць палякамі». З-за гэтай прычыны і не змог, вядома, выйсці сумесны зборнік беларускіх вершаў У. Сыракомлі і В. Каратынскага. Паноў, як галоўных ворагаў беларускага песняра, паказвае Я. Вуль у сваім вершы, звернутым да А. Вярыгі-Дарэўскага («Крыкне на цябе паноўе, што ты шкоднік і місцюк...») Царскія чыноўнікі ў сваю чаргу забаранялі беларускі друк, бралі на падазрэнне кожнага, хто пісаў па-беларуску і нават каралі смерцю толькі за чытанне «Мужыцкай праўды» К. Каліноўскага.

Нядзіўна, што ў такой атмасферы варожасці толькі паасобныя творы беларускіх пісьменнікаў былі надрукаваны. Як правіла, беларуская літаратура пашыралася вусна і рукапісна, і у значнай меры была ананімнай. Пры такіх абставінах лёгка гінулі або наўмысна знішчаліся многія яе творы. Зараз немагчыма ўстанавіць маштабы гэтай страты. Нам вядома толькі, што не дайшлі да нас поўнасцю або часткова творы П. Багрыма, А. Вярыгі-Дарэўскага, А. Абуховіча, Я. Шэмета-Палачанскага, У. Сыракомлі, В. Каратынскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча і іншых пісьменнікаў. І хаця ў XIX ст. паўсюдна білі жывыя крыніцы беларускай літаратурнай творчасці, але яны з прычыны адсутнасці друку не змаглі зліцца ў паўнаводную плынь нашай літаратуры.

Грунтуючыся на кнізе А. Мальдзіса, асабліва на нарысах пра У. Сыракомлю, В. Каратынскага, А. Плуга, А. Вярыгу-Дарэўскага і інш., бачыш, што гэтыя пісьменнікі, не маючы магчымасці друкавацца па-беларуску, вымушаны былі пісаць на польскай мове. У адносінах некаторых твораў, як, напрыклад, паэмы В. Каратынскага «Таміла», даследчык робіць слушнае дапушчэнне, што яны былі спачатку напісаны па-беларуску, а пасля самімі аўтарамі перакладзены на польскую мову і надрукаваны. Нездарма ж сучаснікі ўспрымалі гэтыя творы як беларускія. Так, першы гісторык беларускай літаратуры Р. Падбярэскі лічыў беларускімі паэтамі Ф. Князьніна, Я. Аношку, Т. Лада-Заблоцкага, хаця яны і пісалі на польскай мове. І гэта зразумела. Напісаныя на беларускім матэрыяле, увасобіўшыя ў сабе беларускі нацыянальны характар, творы гэтых і другіх пісьменнікаў не маглі ўспрымацца інакш як беларускія.

Неабходна звярнуць увагу яшчэ і на другія псеўданіны», пад якімі хаваліся Беларусь і беларусы ў XIX ст. Гэта — Літва і ліцьвіны. Са шматлікіх прыкладаў, прыведзеных у кнізе А. Мальдзіса, мы бачым, што А. Міцкевіч, У. Сыракомля, А. Плуг, А. Ельскі і іншыя называлі Беларусь — Літвой, а беларусаў і саміх сябе — ліцьвінамі. Гэта часамі прыводзіла да непаразуменняў. Так, У. Сыракомля, робячы падарожжа па Літве, не мог размаўляць з яе жыхарамі, бо не ведаў літоўскай мовы. І ён са здзіўленнем зазначыў: «Літвін, на чыста літоўскай зямлі, я не мог разгаварыцца з літвінам». Сапраўды, не так лёгка зразумець, чаму літвін не ведаў літоўскай мовы. Для гэтага трэба зазірнуць у глыб гісторыі. Справа ўся ў тым, што, як сведчаць летапісы і другія матэрыялы, у старажытныя часы пад Літвой разумелася не сучасная Літва, а заходняя частка сучаснай Беларусі, дзе жыло племя літва. Калі ў сярэдзіне XIII ст. тут утварылася дзяржава, то яна стала называцца Вялікім княствам Літоўскім, бо яе першапачатковая сталіца — Навагрудак — знаходзілася на тэрыторыі старажытнай Літвы. Пазней, у пачатку XIV ст., калі цэнтр дзяржавы перамясціўся ў Вільню, то і назва «Літва» стала пашырацца на ўсходнюю тэрыторыю сучаснай Літвы, якая да гэтага называлася Аўкштайціяй. Але і першапачатковая Літва па-ранейшаму насіла сваю назву, гэтак жа, як і яе насельніцтва, асімілявaўшыся ў беларусаў, называла сябе ліцьвінамі. Толькі ў пачатку XX стагоддзя, калі завяршыўся працэс утварэння беларускай нацыі, назва «Літва» была выцеснена з Беларусі і стала адносіцца толькі да сучаснай Літвы. Аднак у XIX стагоддзі, як бачым, пад назвай «Літва» разумеліся дзве этнічна розныя тэрыторыі: Беларусь (пераважна заходняя) і Літва. Таму так і здзіўўся У. Сыракомля, што ён, ліцьвін, не разумее літоўскай мовы. Вось чаму тое, што некаторыя беларускія пісьменнікі XIX ст. сябе называлі не беларусамі, а ліцьвінамі, не можа быць сведчаннем цьмянага ўяўлення імі сваёй нацыянальнай прыналежнасці, як думае А. Мальдзіс.

Асобны нарыс у кнізе прысвечаны Юльяну Бакшанскаму, які быў выдатным рэвалюцыйным дэмакратам. У сваёй адозве да смаргонскіх сялян (1847 г.) ён заклікаў іх разам з мяшчанамі і салдатамі распраўіцца з панамі, эканомамі і афіцэрамі, як гэта зрабілі сяляне ў Аўстрыі ў 1846 г. Праўда, Ю. Бакшанскі не ведаў, што суровая расправа галіцыйскіх сялян з польскімі панамі была інспіравана тагачасным аўстрыйскім канцлерам Метэрніхам, які такім чынам адпомсціў польскай шляхце за патрабаванне нацыянальнай незалежнасці аўстрыйскай Польшчы. Аб гэтым мы лічым неабходным сказаць таму, што ў 1863 годзе да тактыкі падбухторвання беларускіх сялян на рэвалюцыйную польскую і беларускую шляхту прыбегнуў і царскі ўрад, аб чым расказваецца ў нарысе пра запісную кніжку паўстанца. Нездарма ў той час і ўзнікла прыказка: «Звяжы пана — грошы будуць». Царскім апрычнікам сапраўды ў многіх выпадках удавалася перацягнуць на свой бок беларускага селяніна, які, як гаварыў Ленін, «з-за законнай нянавісці да польскага пана... не мог зразумець значэння барацьбы гэтых паноў для ўсерасійскай дэмакратыі». Аднак, на вялікі гонар Беларусі, у ёй знайшліся людзі, якія ацанілі вызваленчае значэнне польскага нацыянальнага руху і выкарысталі яго для абуджэння самасвядомасці і рэвалюцыйных сіл беларускага народа і тым самым зрабілі вялікі ўклад у агульнарасійскую вызваленчую барацьбу. У гэтым і заключаецца галоўная заслуга першага вялікага беларускага рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага.

Кніга А. Мальдзіса дасць магчымасць шырокаму чытачу пазнаёміцца і з пачынальнікам беларускай музыкі Антонам Абрамовічам. У раздзеле «На далёкіх мерыдыянах» А. Мальдзіс расказаў пра славутых вучоных і падарожнікаў: І. Дамейку, А. Янушкевіча, Б. Дыбоўскага, К. Ельскага.

Значнае месца ў кнізе займаюць цікавыя нарысы пра пошукі і знаходкі архіўных дакументаў і рэдкіх кніг. Самым каштоўным з таго, што ўводзіць у навуковы ўжытак даследчык, — гэта, бясспрэчна, верш «Я клічу вас». Аўтар яго — адукаваны беларускі селянін, што хаваўся пад псеўданімам Горэвід, як ніхто ў XIX ст. адчуў невыносны цяжар сацыяльнай забітасці і нацыянальнай прыніжанасці беларускага народа і таму так палымяна заклікаў яго

Ланцугі цемрачы парваці!
Ды вольным быці нам — народзе...

Хочацца не пагадзіцца з А. Мальдзісам толькі ў адносінах адной ацэнкі. Сказаўшы аб знаходцы сярод папер А. Ельскага цэлага сшытка вершаў сялянскага паэта-самавука Мікалая Марозіка, ён адразу дадае, што «асабліва радавацца няма падстаў, бо вершы гэтыя прымітыўныя». Вершы, сапраўды, невысокай якасці. Аднак толькі па гэтай прычыне іх нельга закрэсліваць. Вядомы верш К. Каліноўскага таксама не вызначаецца мастацкай дасканаласцю, ён каштоўны сваімі ідэйнымі якасцямі. Але справа не ў гэтым. У свой час У. І. Ленін указваў, што адной з прыкмет нацыянальнага руху беларусаў, як і ўкраінцаў, з'яўляецца «абуджэнне мас да авалодання роднай мовай і яе літаратурай». Вось пра гэта і сведчаць перш за ўсё вершы Марозіка, Горэвіда і многіх другіх невядомых сялянскіх паэтаў, якія пакінулі нам нямала ананімных твораў.

Кніга А. Мальдзіса, вядома, не высвятляе ўсе загадкі і не сцірае ўсе белыя плямы гісторыі нашай літаратуры і культуры XIX стагоддзя. Мы спадзяемся, што даследчык яшчэ не раз пакліча нас у новыя цікавыя падарожжы па XIX стагоддзі.

М. ЕРМАЛОВІЧ.

А. Мальдзіс. «Падарожжа ў XIX стагоддзе». Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск. 1969.

НАВІНКІ КНІЖНАЙ ГРАФІКІ



Ілюстрацыі Б. Заборава да кнігі казак народаў Югаславіі, якая выходзіць у выдавецтве «Беларусь».

# ПРЫПЫНАК НА МАРШРУЦЕ МІЛАН—КРАСНАДАР

АДНОЙЧЫ я чула, як артыст папракнуў крытыка:

— Вось вы ў сваім артыкуле пра Н. *пісалі*, што на рэпетыцыі яна плакала «сапраўднымі слязьмі», а гэта ж, прабачце, звычайны натуралізм, трэба, каб не артыст плакаў, а глядач.

— Гэта правільна, але здараецца, што ў самых кранальных месцах спектакля глядач на дзіва спакойны. Ці не таму, што выканаўца не перажыў глыбока жыцця свайго героя? Калі вы можаце данесці да мяне са сцэны ўсе пачуцці, не паплакаўшы «сапраўднымі слязьмі»,— калі ласка, але, каб я не бачыў акцёрскую тэхніку, а адчуваў ваша сэрца.

Думаючы пра маладую артыстку беларускай оперы Ірыну Шыкунову, выпускніцу Беларускай кансерваторыі, я ўспомніла гэтую размову.

Якое шчаслівае спалучэнне на опернай сцэне — спявак і акцёр! Прыгожы голас і тонкі артыстызм!

У Ірыны Шыкуновай прыгожае лірычнае сапрана цёплага высакароднага тэмбру, добры артыстычны густ, чыстая, выразная дыкцыя.

Упершыню яна «раскрылася» ў оперы Дж. Пучыні «Багема». Вобраз Мімі складаны і цяжкі для выканання. Мімі — пяшчотная, тонкая, з глыбокімі чалавечымі пачуццямі, здольная на самую шчырую ахвяру. Яна—дабрыня і непасрэднасць. У ёй усё, што ўласціва маладосці: страсныя парыванні, захапленні, цікаўнасць і гарэзлівасць... І пры гэтым дзяўчына ведае, што яна смяротна хворая. Такую псіхалагічную гаму фарбаў не так проста перадаць. Ірына Шыкунова ўвабрала, калі можна так сказаць, у сябе душу гераіні. Артыстка расказвае пра трагічны лёс дзяўчыны эмацыянальна і шчыра.

Другая сур'ёзная работа Ірыны — Таццяна ў «Яўгеніі Анегіне». Пушкінская Таццяна... Любімы з дзяцінства, родны вобраз. Глыбока руская жанчына. Падабраць ключ да выканання гэтай партыі лёгка і вельмі складана. Лёгка, калі ісці па шляху, пратораным дзесяткамі вядомых выканаўцаў. Але трэба ведаць Шыкунову, каб упэўнена сказаць: Ірына будзе набліжацца да пушкінскага вобраза Таццяны. Маладой спявачцы давялося нялёгка. Спектакль не ставіўся нанава, яго ўзнаўлялі ў старой і далёкай ад дасканаласці рэдакцыі. Увогуле, адбыўся звычайны «ўвод» артысткі ў «абыграны» спектакль. І хоць рэжысура, дырыжор і канцэртмайстар шмат дапамагалі Ірыне, спявачка павінна была, па сутнасці, самастойна пранікнуць у таямніцы пушкінскага мастацкага мыслення.

На дзіва блізкі акцёрскай індывідуальнасці Ірыны гэты пушкінскі вобраз. Перад намі — шчырая і паэтычная, чыстая, гордая пушкінская Таня

Псіхалагічная глыбіня і шчырасць, адточанасць музычнай фразы, тонкая нюансіроўка вылучаюць створаныя Ірынай вобразы Марфы ў «Царскай нявесце» Рымскага-Корсакава, Мікаэлы—у «Кармэн» Бізэ, Ганначкі—у «Брэсцкай крэпасці» Малчанава, Марфачкі—у «Алесі» Ціцоцкага. Галерэя вобразаў яшчэ невялікая, але і сцэнічны шлях артысткі фактычна толькі пачаўся.

Зараз Ірына Шыкунова праходзіць стажыроўку ў Мілане, у славутым Ла Скала. Нядаўна яна вярталася ў Мінск, каб з тэатрам паехаць на гастролі ў Краснадар.

— Ірына, калі ласка, невялікае інтэрв'ю...

— Гэта будзе, напэўна, шаблонна, але перш за ўсё я павінна сказаць пра незвычайнае хваляванне, што ахапіла мяне, калі ўзнімалася па лесвіцы тэатра, сцэна якога бачыла вялікіх спевакоў свету... Чатыры месяцы ў Мілане я, шчыра кажучы, ведала толькі тры пункты — тэатр, гасцініцу, сталовую. Хацелася як мага больш убачыць спектакляў, пачуць спевакоў і вучыцца, вучыцца...

— Якія ж спектаклі і спевакі пакінулі найбольш яркае ўражанне?

— «Сельскі гонар» і «Рыгалета» з выдатнымі спевакамі тэатра Ла Скала Раймондзі і Капучылі, «Дон Карлас» з балгарскім басам Гяуравым у ролі Філіпа... і іншыя... Пра вакальную школу гэтага тэатра, сусветна вядомае бельканта ўжо столькі напісана, што няма сэнсу паўтарацца. Я са сваім педагогам Артуро Мярліні развучваю партыі Дэздэмоны і Віялеты. Мне нават прапанавалі праспяваць спектакль, калі прыеду ўвосень. Для мяне, вядома, гэта будзе вялікім гонарам. Я ўжо зараз вельмі хвалююся...



На ўспамін аб Мілане. У цэнтры здымка — маэстра Артуро Мярліні. Другая злева — Ірына Шыкунова.

— У тэатры Ла Скала працуе галоўным мастаком Мікалай Аляксандравіч Бенуа. Сустракаліся вы з ім?

— Была нават у гасцях. Мікалай Аляксандравіч па традыцыі запрашае да сябе «на чай» стажораў з Савецкага Саюза. Яго кватэра — сапраўдны музей. Там можна ўбачыць работы яго бацькі — вядомага рускага мастака Аляксандра Бенуа, партрэты славутых рускіх артыстаў, пісьменнікаў, кампазітараў. Са спектакляў, афармленых Мікалаем Бенуа, мне асабліва спадабаўся «Рыгалета»: дэкарацыі вельмі ярка падкрэсліваюць трагедыю маленькага чалавека і тое, што ён не блазен, а Чалавек. Дарэчы, мастак ужо не працуе ў тэатры. Ён зараз на «разавых». Ён гаварыў нам, што яго рэалістычнае мастацтва зараз не ў «модзе», што яго лічаць ужо старамодным. Мне пачулася ў гэтых словах Мікалая Аляксандравіча шмат прытоенага болю. Ён прагна распытваў пра навіны ў нашым мастацтве, пра савецкіх мастакоў-дэкаратараў. На стале ў яго ляжала кніга «Дзень паэзіі», раскрытая на той старонцы, дзе на здымку быў зняты Уладзімір Маякоўскі з артыстамі Ленінградскага Малога опернага тэатра ў час падрыхтоўкі музычнай кампазіцыі па паэме «Добра!»...

І яшчэ мне хочацца сказаць, што ў Мілане побач з Ла Скала існуе невялікі тэатр, так званы «маленькі Ла Скала». Гэта оперная лабараторыя, эксперыментальны тэатр, дзе ставяцца сучасныя творы, малавядомыя оперы кампазітараў-класікаў, мюзіклы... Мне здаецца, такія тэатры патрэбныя: яны спрыяюць развіццю опернага мастацтва... Увосень, калі я зноў буду ў Мілане, абавязкова пагляджу спектаклі маленькага «Ла Скала». Я паеду ў кастрычніку, каб да зімы быць дома, бо разам з Таццянай Ларынай вельмі люблю рускую зіму...

Ірына абяцала напісаць, як пройдзе ў Краснадары першы спектакль «Атэла», дзе яна дэбютуе ў новай для яе адказнай партыі...

Чытаю паспешліва напісаную паштоўку з некалькімі ўсхваляванымі словамі, стараюся ўявіць яе на сцэне.

...Грыміць аркестр, плывуць магутныя гукі геніяльнага вердзіеўскага твора. І на сцэне перад венецыянскім маўрам — чыстая, трапяткая, закаханая Дэздэмона...

Гаворка пра Ірыну Шыкунову ў партыі Дэздэмоны яшчэ наперадзе. Мабыць, пасля вяртання актрысы з Мілана ў Мінск.

**Б. ШАРАШЭЎСКАЯ.**

*З ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ*

# ДАСЛЕДЧЫК СМАЛЕНШЧЫНЫ

Пяцьдзесят гадоў назад, у ноч з 7 па 8 мая 1920 года, трагічная выпадковасць абарвала жыццё вядомага фальклярыста і этнографа, даследчыка Смаленшчыны Уладзіміра Мікалаевіча Дабравольскага.

Нарадзіўся ён 11 жніўня 1856 года ў вёсцы Красна-Свяцкае Прудкоўскай воласці Смаленскага павета і губерніі. У 1868 годзе паступіў у Смаленскую гімназію. Пасля сканчэння яе ў 1876 годзе паступіў на філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта, які славіўся навуковымі сіламі. Прафесарамі факультэта былі Ф. Буслаеў, Ф. Корш, У. Мілер і інш. Універсітэт заахвоціў і падрыхтаваў У. Дабравольскага да заняткаў этнаграфіяй.

Скончыўшы універсітэт у 1880 годзе, У. Дабравольскі быў прызначаны выкладчыкам літаратуры, логікі і гісторыі ў Смаленскую Марыінскую жаночую гімназію. Падарванае ў студэнцкія гады здароўе дало сябе адчуць амаль адразу ж. З-за хваробы 7 студзеня 1883 года ён выйшаў у адстаўку і паводле парады ўрачоў пасяліўся ў вёсцы. З гэтага часу ён інтэнсіўна вывучае народны побыт і вуснапаэтычную творчасць. Галоўную ўвагу ён звяртае на даследаванне і запіс беларускага абрадавага фальклору Смаленшчыны.

У сакавіку 1886 года па парадзе П. Шэйна У. Дабравольскі прадставіў рукапіс І тома «Смаленскага этнаграфічнага зборніка» ў Рускае геаграфічнае таварыства, якое ў гэтым жа годзе абрала яго сваім членам-супрацоўнікам. З друку І том зборніка выйшаў у 1891 годзе. У яго ўвайшлі нататкі пра гаворкі смаленскага дыялекта, апавяданні сялян, матэрыялы пра знахароў, замовы, прымхі, легенды, павер'і, паданні пра паходжанне птушак і жывёл, казкі, былічкі. Асабліва багаты том на замовы і казкі. Шмат тут казак з сацыяльным зместам, сатырычных антыпапоўскіх («Як поп казлом зрабіўся», «Як мужык свайго бацюшку паднадуў», «Як мужык з салдатам папоў губілі»). Выключную цікавасць уяўляе «Расказ Матрошкі Антоненкавай пра сваё жыццё»—выдатны ўзор вуснага народнага сказа, які адразу ж адзначылі рэцэнзенты пасля выхаду тома з друку.

У 1893 годзе выйшаў з друку II том «Смаленскага этнаграфічнага зборніка», складзены з абрадавай паэзіі.



У яго ўвайшлі песні «ксцінныя» (хрэсьбінныя), вясельныя, пахавальныя галашэнні і г. д., апісанні сямейнага побыту селяніна. Асабліва багаты том на апісанні вясельных абрадаў.

Трэці том працы У. Дабравольскага, які выйшаў у 1894 годзе, складаецца з прыказак і прымавак (3526 нумароў). Укладальнік расклясіфікаваў прыказкі не па алфавіту, як было часцей за ўсё ў тыя часы, а паводле зместу, падзяліўшы ўвесь матэрыял на 203 групы. Гэта дае магчымасць чытачу лягчэй арыентавацца ў матэрыяле, хутчэй знайсці патрэбную прыказку.

Апошні, IV том зборніка, выйшаў у 1903 годзе і змяшчаў больш за паўтары тысячы каляндарна-абрадавых песень (калядныя, масленічныя, вяснянкі, песні валачобнікаў, юраўскія, купальскія, жніўныя і г. д.). Значную каштоўнасць уяўляюць прыпеўкі, якія былі ім запісаны на Смаленшчыне ўпершыню. У томе змешчаны таксама песні салдацкія, турэмныя, чумацкія, баладныя, гістарычныя. Сярод гістарычных — песні пра татаршчыну, Сценьку Разіна, Пятра І, Суворава, Касцюшку, падзел Польшчы, французаў, Крымскую вайну, вызваленне сялян, руска-турэцкую вайну 1877—78 гг. і г. д.

Зборнік У. Дабравольскага — каштоўнейшы матэрыял для вывучэння і інтэрпрэтацыі абрадавай і бытавой песні і звязаных з імі звычаяў, для даследавання казак, прыказак, загадак.

Праца У. Дабравольскага змяшчае выключна разнастайны і багаты матэрыял па духоўнай культуры рускіх і беларусаў. Зборнік у свой час вельмі высока ацаніў У. І. Ленін. У. Д. Бонч-Бруевіч успамінае: «Не памятаю цяпер як, але размова перайшла на народны эпас, і калі я сказаў Уладзіміру Ільічу, што ў мяне ў бібліятэцы ёсць даволі добра падабраныя кнігі былін, народных песень і казак, то ён тут жа спытаўся ў мяне, ці не магу я даць іх яму паглядзець. Вядома, я з радасцю выканаў гэту просьбу... І ўжо ў той жа вечар я бачыў, як Уладзімір Ільіч уважліва чытаў «Смаленскі этнаграфічны зборнік», складзены У. М. Дабравольскім. «Які цікавы матэрыял, — сказаў ён мне, калі я раніцай увайшоў да яго.—Я бегла прагледзеў вось гэтыя кніжкі, але бачу, што не хапае, відаць, рук або жадання ўсё гэта абагуліць, усё гэта прагледзець з сацыяльна-палітычнага пункту погляду, на гэтым жа матэрыяле можна было б напісаць цудоўнае даследаванне пра спадзяванні і жаданні народныя».

Акрамя фальклорна-этнаграфічных даследаванняў рускіх і беларусаў, У. Дабравольскі займаўся яшчэ вывучэннем цыганоў, іх побыту, фальклору, мовы. У 1908 годзе ён выдаў кнігу «Кісялёўскія цыганы», дзе змясціў на цыганскай мове і ў перакладзе на рускую 15 казак, 23 песні, апавяданні з сямейнага побыту цыганоў і інш.

У розных выданнях з 1894 да 1916 гг. У. Дабравольскі змясціў 26 артыкулаў фальклорна-этнаграфічнага і інш. зместу: «Дадзеныя для народнай мовы календара Смаленскай губерні ў сувязі з народнымі вераваннямі», «Прыказка і загадка», «Матэрыялы для гісторыі народнага тэатра», «Адрозненні ў вераваннях беларусаў і велікарусаў Смаленскай губерні», «Бабёр у Смаленскай зямлі па летапісных, археалагічных і сучасных дадзеных» і інш.

Па даручэнні Акадэміі навук У. Дабравольскі збіраў лексічны матэрыял у Смаленскай, Калужскай і Арлоўскай губернях, а таксама матэрыялы для «Смаленскага абласнога слоўніка». Запісы даследчык рабіў вельмі дакладна, стараючыся перадаць усе адценні мясцовых гаворак і дыялектаў. Асабліва пільна запісваў ён лексіку для свайго «Смаленскага абласнога слоўніка», які выйшаў у 1914 годзе ў Смаленску.

У гады рэвалюцыі У. Дабравольскі не пакідае этнаграфіі і народнай асветы. У 1918 годзе яго запрашаюць чытаць лекцыі на чырванаармейскіх курсах, арганізаваных у Смаленску. Пасля ён чытаў лекцыі па гісторыі рускага тэатра і этнаграфіі ў Маскве, у Віцебскім інстытуце народнай асветы, у Смаленскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага інстытута.

Уладзімір Мікалаевіч Дабравольскі сваімі капітальнымі працамі ўнёс вялікі ўклад у развіццё беларускай этнаграфічнай навукі. Таму імя яго варта нашай шчырай пашаны.

**Янка САЛАМЕВІЧ.**

## Алесь АСТАПЕНКА



**Пасля працяглай цяжкай хваробы абарвалася жыццё беларускага паэта Алеся Кірылавіча Астапенкі.**

**Алесь Астапенка нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Сырская Буда Кармянскага раёна, Гомельскай вобласці, у сялянскай сям'і. У 1938 годзе скончыў сярэднюю школу і паступіў на літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Нейкі час ён працаваў у рэдакцыі рэспубліканскай газеты «Звязда».**

**У часе Вялікай Айчыннай вайны А. Астапенка — у радах воінаў Савецкай Арміі. Удзельнічаў у баях на Заходнім і Бранскім франтах. Улетку 1943 года пад Арлом быў цяжка паранены, пасля чаго дэмабілізаваўся і працаваў у маладзёжнай рэдакцыі Беларускага Радыёкамітэта, у рэдакцыях газеты «Чырвоная змена» і часопіса «Бярозка».**

**За баявыя заслугі перад Радзімай узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені і медалямі.**

**Першыя вершы А. Астапенкі надрукаваны ў 1942 годзе. У 1947 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшла яго кніжка вершаў «Выпрабаванне». У 1952 годзе паэт выдаў другі свой зборнік — «Дзень маёй Радзімы». Шэраг яго вершаў пакладзены на музыку.**

**Светлы вобраз Алеся Астапенкі назаўсёды застанецца ў сэрцах яго сяброў і таварышаў.**

Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР.

МУЗЫКА, МУЗЫКАНТЫ

# ПРАЗ СЭРЦА ЧУЛАЕ...

Фота Ул. КРУКА.

ГЭТА трохі дзіўна, але кампазітара ў стане натхнення вы ніколі не ўбачыце. Бадай, толькі за інструментам у час выканання твора. Такое выкананне публічным бывае рэдка. А ў натоўпе людзей дзе-небудзь на сходзе або ў фае філармоніі ён выглядае звычайным інтэлігентам. Такі і Анатоль Багатыроў. Нават тыя, хто пачынае знаёмства з гэтым чалавекам і падпадае пад абаяльнасць змястоўнай асобы мастака, не падазраюць, які шырокі дыяпазон творчасці, колькі зроблена ім на музычнай ніве. Оперы і кантаты, сімфоніі і канцэрты, рамансы і санаты, песні і канцэртныя п'есы для розных інструментаў... А перад намі паглыблены ў сябе разумны чалавек, які раптам падхопіць вашу заўвагу аб новых вершах Аркадзя Куляшова або дасць гістарычную даведку аб скіфах. Гісторык? Філолаг? Журналіст? Так, пра музыку, як пра нешта запаветнае, Анатоль Васільевіч гаварыць не спяшаецца, ён разам з субяседнікам «падбіраецца» да яе.

— Любімы інструмент? — І пад акулярамі загараецца гарэзлівы агеньчык. — А ці ёсць такі ў кампазітара? Мабыць, любіш той, які вось зараз табе патрэбны, каб выказаць тое, чаго ніякі іншы лепш не зробіць. А-а, вы пра інструментальныя творы? Што ж, можа, і справядліва, што віяланчэль здольна гаварыць з інтанацыямі чалавечага голасу...

Я спытаў А. Багатырова пра віяланчэль не выпадкова — толькі што зноў прагартаў яго віяланчэльную санату. І — здзівіўся таму хараству, якое льецца з нотных старонак гэтага твора. Першае слова зрываецца з тваіх вуснаў — паэзія.

...Мужны голас салірующай віяланчэлі пяе высакародную мелодыю (1-я частка), светлы ля мажор афарбоўвае яе шчырыя інтанацыі. Пабочная ж партыя, заснаваная на беларускай народнай песні «Заспявай, заспявай, журавачка», трохі суровая. Сакавіты, грудны спеў віяланчэлі — быццам голас спевака-апавядальніка, а плаўны акампанемент фартэпіяна — як ігра народнага музыканта, калі той дакранаецца да струн цымбалаў. Другая частка — тэма з варыяцыямі на матыў песні «Дубочак зялёненькі і Ванька маладзенькі» (запісанай Р. Шырмам). Калі пачынаеш аналізаваць агульны лад твора, успамінаюцца словы Дж. Энеску: «Толькі вялікія майстры могуць смела абыходзіцца з народнымі мелодыямі, не прыносячы шкоды іх бляску».

Тонкія інструментальныя ўзоры, праз якія ўсё ярчэй прабіваецца галоўная тэма (І-я і ІІ-я варыяцыі); энергія, парывісты рух і паліфанічнасць — (ІІІ-я); мажорнае спяванне віяланчэлі — (IV); валявы напор, разнастайнасць дынамікі, віртуознасць тэхнікі (V-я); роздум, маналагічныя, кантрастуючыя выказванні віяланчэлі (густое, басавае гучанне) і фартэпіяна (пяшчотныя гукі) — нібы пытанне і адказ (VI-я); жаласлівая калыханка (VII-я); лёгкі, грацыёзны вальс (VIII-я); гераічная маршападобнасць (IX-я)... Усе гэтыя разнастайныя замалёўкі надзвычай паэтычныя і характэрныя.

Віяланчэльная партыя тут не ўскладнёная. Асаблівасць яе музыкі — шчодры меладызм.

— Віяланчэль — цудоўны, пявучы інструмент, які, перш за ўсё, павінен спяваць. Да гэтага я і імкнуўся ў сваёй санаце, — гаворыць А. Багатыроў.

Паглядзім, як выкарыстаны інструмент у іншых творах. Канцэрт. Галоўная тэма І-й часткі — рашучая, імклівая, вырастае з пяцігучнага матыву, які паступова сыходзіць (яго абрысы ёсць і ў астатніх частках). Пабочная — мае гуллівы, бесклапотны характар. Салісту ў канцэрце даводзіцца вырашаць цяжкія тэхнічныя задачы: віртуозныя пасажы, двайныя ноты, разнастайныя штрыхі, высокі рэгістр і г. д. Вялікая творчая ўдача А. Багатырова — другая частка канцэрта — «Раманс». Яе шырока разгорнутая працяглая тэма тонка гарманізаваная. Выразныя падгалоскі ў аркестры. Музыка гэтай часткі то задуменная, пяшчотная, ласкавая, то парывістая, глыбока драматычная, страсная.

Цікава, як А. Багатыроў тут узбагаціў кантылену за кошт сучасных сродкаў: гукавы дыяпазон рассунуты да чатырох актаў, уведзены скачкі на вялікія інтэрвалы, выкарыстаны «нязручныя» танальнасці (напрыклад, соль дыез мінор). А фінал — вясёлы, радасны. Запамінаецца лірычная пабочная партыя, якая асацыіруецца з музыкаю Пракоф'ева. Тут віяланчэль прадстаўлена эфектна, ярка...

— Я вам зайздрошчу, — сказаў мне аднойчы Анатоль Васільевіч, маючы на ўвазе навінку мастацкай прозы, — вам прадстаіць перажыць эстэтычную асалоду першага знаёмства.

Я ж зайздрошчу тым, хто яшчэ не чуў яго Віяланчэльную санату — твор, прасякнуты глыбокім роздумам чалавека аб тым, што не можа не хваляваць кожнага з нас, — аб жыцці, аб прызначэнні нашага «я», аб жаданні быць зразуметым блізкім і знайсці сваё месца ў віхуры імклівага часу...

Першая сустрэча кампазітара з віяланчэллю адбылася ў 1934 годзе ў Беларускай кансерваторыі, калі ён напісаў п'есу «Беларускія карцінкі». У гэтым захапленні маладога музыканта вялікую ролю адыграў Васіль Залатароў, які і сам працаваў над Канцэртам для віяланчэлі. У 1943 годзе Багатыроў піша фартэпіяннае трыо. Кампазітар выбірае для віяланчэлі найбольш гучны, выразны рэгістр. У першай частцы некаторыя аналогіі ўзнікаюць з трыо Чайкоўскага — прыёмы выкарыстання інструмента, агульнасць танальнасці ля мінор, тая ж роля інструментаў у пачатку — трыольны віяланчэльны акампанемент пад час сола скрыпкі.

Калі ў першай частцы ў віяланчэлі няма асаблівых тэхнічных цяжкасцей, дык у другой — скерца — карціна іншая, спікатныя штрыхі, двайныя ноты, віртуозныя шаснаццатыя, скрыпічны дыяпазон. Выразнае тут першае маршападобнае, пікантнае сола і вальсападобнае другое. У трэцяй частцы — папулярнай «Баладзе» — голас віяланчэлі больш мужны (выкарыстана сярэдняя струна — рэ). Тут гучыць рэкруцкая песня заходняй часткі Беларусі. Віяланчэль спачатку гучыць прыглушана, а потым усё больш усхвалявана. Багатыроў па-майстэрску выкарыстоўвае паступовае павышэнне рэгістраў усіх інструментаў для стварэння атмасферы вялікага эмацыянальнага напалу. Тут адчуваецца праграмнасць задумы — апавядаецца пра партызанскія падзеі мінулай вайны. І аб гэтым натхнёна спявае ва ўвесь голас ансамбль інструментаў.

У 60-я гады А. Багатыроў захапляецца кантрабасам, піша для яго канцэрт і санату.

Канцэрт для кантрабаса — вялікая рэдкасць (ён — адзіны не толькі ў беларускай, але і ва ўсёй савецкай музыцы), бо па сваёй прыродзе інструмент глухаваты і не вызначаецца вялікай тэхнічнай рухавасцю. Таму стварэнне кантрабасавага канцэрта — задача досыць цяжкая. Але А. Багатыроў добра з ёю справіўся. Тэмы першай часткі блізкія да народных (у галоўнай партыі ёсць некаторыя інтанацыі песні «Сад-вінаград»). У другой частцы гучыць жаласлівая песня «Паздароў, божа, майго мілага». Тут можна знайсці рысы калыханкі (прыгадваюцца музычныя вобразы «Кікімары» А. Лядава). Фінал — танцавальны, вясёлы (народная песня «Ажаніла маці»).

Уся музычная літаратура, створаная А. Багатыровым, мае выразны нацыянальны каларыт. І гэта — не цытаты, не амярцвелыя рысы архаікі. А што ж? Чытаю выказванне кіргізскага пісьменніка Ч. Айтматава: «Калі гаворка пачынаецца аб нацыянальным, мы чамусьці больш азіраемся на мінулае і не заўсёды заўважаем, што жыве разам з намі ў цяперашнім, народжаным сацыялістычнай рэчаіснасцю». Мабыць, А. Багатыроў тым і цікавы, як інтэрпрэтатар нацыянальнага ў музыцы, што ён ведае і адчувае сённяшні дух фальклору, умее выбіраць тое, што і ў нашы дні жыве ў народзе. Выказаныя ў вобразнай сістэме, характэрнай беларускай нацыянальнай творчасці, роздум і эмоцыі героя твораў не «мадэрнізуюцца», а суадносяцца кампазітарам з унутраным светам беларуса XX стагоддзя. Правінцыялізму, спрашчэння, экзатычных шаблонаў і таннай стылізацыі вы ў яго творах не знойдзеце!

— Тут, мабыць, пяро даследчыка амаль бяссільнае, — смяецца Анатоль Васільевіч. — Дыялектычны працэс творчасці не паддаецца праверцы алгебрай. І вылушчваць «працэнт нацыянальнага», на маю думку, справа дарэмная. Калі вы адчуваеце, што музыка вам сказала нешта істотнае і скіравала думку да народных вытокаў сваёй мовы — гэта ўжо добра. А як і чаму?.. Паспрабуйце вызначыць!..

Бяру яшчэ адну цытату — з А. Луначарскага: «...Музыка з незвычайнай сілай і чысцінёй адлюстроўвае некаторыя важнейшыя законы і космасу, і чалавечага грамадства, і чалавечай натуры». Таму, відаць, сапраўдная нацыянальная сутнасць ніколі не перашкаджае ёй быць зразумелай людзям зямнога шара. Мне здаецца, што ў лепшых творах А. Багатырова якраз такім чынам і суладзяцца матывы агульначалавечыя з натуральнай патрэбай мастака гаварыць на сваёй роднай мове, маючы на ўвазе і сацыяльны вопыт народа. Які ж тут правінцыялізм! Плённы пошук кампазітара, плённы роздум аб надзённых праблемах музычнай творчасці!

Саната для кантрабаса, на жаль, у нас цалкам ні разу не выконвалася. Гэта тым больш дзіўна, калі ўлічыць беднасць рэпертуару кантрабасістаў. За санатай «палююць» музыканты Масквы, Саратава (дзе яна даўно выконваецца), а нашы выканаўцы нечага чакаюць. Крыўдна!

Скрыпічная і фартэпіянная санаты напісаны на працягу аднаго года, і ў першай гэта адчуваецца: такая па-сучаснаму змястоўная партыя фартэпіяна (асабліва ў першай і трэцяй частках). Рамантычная тэма скрыпкі (першая частка) энергічная, нястрымная не толькі па сваім размаху, пафасе, але і па форме. Ева Эфрон прапанавала кампазітару зрабіць тут купюру (перад кодай), з чым ён пагадзіўся.

Тэма другой часткі па духу народная, тут прыкметна кананічнае правядзенне галасоў другіх інструментаў.

Фінал — ронда на дзве тэмы. Другая блізкая да песні «Конь бяжыць» (у А. Багатырова ёсць яе апрацоўка для хору, і тут да месца адзначыць вялікую ўзаемасувязь вакальнай і інструментальнай творчасці аўтара).

Санату для трамбона Багатыроў, паводле яго слоў, «пісаў крыху наўмысна ў стылі Пракоф'ева». Яго почырк знаходзім у інтанацыях галоўнай тэмы першай часткі, а таксама ў палітанальных гучаннях (сі мажор — сі мінор), кантрастуючых супастаўленнях рэгістраў трамбона і фартэпіяна ў другой.

А. Багатыроў не забывае і юных выканаўцаў. Для музычнай школы і вучылішча прызначаны віяланчэльныя п'есы «Беларуская карцінка», «Вясенні парыў», цыкл з шасці п'ес. Асабліва вызначаюцца «Балада» — разгорнутая п'еса эпічнага складу з кантрастуючай сярэдзінаю і імклівае «Маленькае ронда» з танцавальнай задорнай беларускай тэмай. Апошняя п'еса — сапраўдны падарунак віяланчэлістам.

Скажу аб некаторых асаблівасцях почырку А. Багатырова. Шырока выкарыстоўвае кампазітар прынцып «скразной дзеі». Напрыклад, у трыо фінал пабудаваны на змененых інтанацыях светлай мажорнай тэмы з сярэдняга раздзелу трэцяй часткі «Балады»; праз увесь віяланчэльны канцэрт праходзяць інтанацыі галоўнай партыі першай часткі; у санаце для скрыпкі інтанацыі галоўнай партыі першай часткі нечакана з'яўляюцца ў фінале... Багатыроў любіць глыбокія басы (званы), пераззвонныя пералівы кварт-квінт, што блізка беларускаму народнаму меласу. Ён нярэдка выкарыстоўвае асцінатныя гучанні — такая галоўная тэма санаты для трамбона, такія басы або вялікія акампаніруючыя будовы («Раніца» — п'еса для віяланчэлі).

Багатыроў — інструменталіст... Яркая фігура ў музычным жыцці Беларусі. Выканаўцы яго твораў, пра якія тут было сказана, аднадушна гавораць, што іграць іх — асалода. І ўсё ж... На жаль, канцэртны рэпертуар выканаўцаў слаба папаўняецца беларускімі творамі (дарэчы, у музычных навучальных установах таксама мала іграецца беларуская музыка, асабліва для струнных і духавых інструментаў). У гэтым не заўсёды вінаваты выканаўцы — творы беларускіх аўтараў да гэтага часу не сабраны: частка нотаў у бібліятэцы Міністэрства культуры БССР, частка — у кансерваторыі або ў Саюзе кампазітараў рэспублікі, а то і зусім у архівах кампазітараў. Далей. Трэба дамагацца выдання лепшых твораў. Гэта будзе садзейнічаць прапагандзе беларускай музыкі і за межамі рэспублікі. Чаму, напрыклад, фартэпіяннае трыо А. Багатырова выконваецца ў самых далёкіх кутках нашай краіны? Нядаўна адбылося выкананне ў Каломне. Бо выдадзена! А віяланчэльная ж саната была ў рукапісе 20 гадоў і толькі сёлета будзе выдадзена ў Ленінградзе. У свой час 19 гадоў чакала «сваёй чаргі» трыо...

— І колькі цудоўнай беларускай музыкі не выдадзена! Мабыць, наспеў час стварыць у рэспубліцы музычнае выдавецтва.

— Але ж гэта ўжо выходзіць за межы нашай гаворкі, — сумна ўсміхаецца Анатоль Васільевіч. — Мабыць, і сапраўды мы, кампазітары, апынуліся ў горшым становішчы за пісьменнікаў, бо тыя нясуць свае рукапісы ў часопісы і ў выдавецтвы... А мы? Чакаем. Ды ці ж ёсць перашкоды на тваім шляху, калі музыка літаральна просіцца ў белы свет. Спяшаешся да інструмента, шукаеш, пакутуеш над кожнай, здаецца, нотай... А не пісаць нельга!..

Так, нельга, калі праз сэрца прабіваецца нешта запаветнае, што можа перадаць музыка, адна толькі музыка. І тут я пабачыў прафесара Багатырова за інструментам — гэта быў не той, звычайны ў натоўпе інтэлігент, аб якім гаварылася ў пачатку, гэта быў паглыблены і натхнёны стваральнік музыкі. Працавітыя кісці рук, падобныя на рукі аратага, упалі на клавішы, і загучала... Я шчаслівы — чуў толькі што народжаную музыку Багатырова.

Станіслаў МАДОРСКІ.

*Сёння ў іх вачах злачынца я... Але заўтра ў вачах будучага суда злачынцамі будуць абвешчаны яны...*

**З прамовы лейтэнанта П. П. Шміта на працэсе.**

Ул. МЕХАЎ



# СЛУХАЕЦЦА СПРАВА АД ЗАМАХУ

## НОВАЕ ПРА ІВАНА ПУЛІХАВА

Мал. В. ТАРАСАВА.

*Іван Пуліхаў...*

*Імя гэтае шырока вядомае — рэдка хто ў Беларусі не чуў пра замах у Мінску на жыццё ката-губернатара Курлова.*

*І ў той жа час вядома пра Пуліхава вельмі мала. Да апошняга часу пра замах і яго ўдзельнікаў публікаваліся скупыя, прытым надта недакладныя звесткі.*

*У Маскве, у ваенна-гістарычным архіве, захоўваюцца дакументы следства і суда па справе Пуліхава і другой удзельніцы замаху Аляксандры Ізмайловіч. Дакументы, якія — наколькі аўтару вядома — пакуль што не публікаваліся і ніяк не выкарыстоўваліся даследчыкамі. Таму ў нарысе, які прапануецца ўвазе чытачоў, яны падрабязна цытуюцца, а ў многіх выпадках прыводзяцца цалкам.*

*А паколькі аўтар меў на мэце не толькі пазнаёміць чытачоў з архіўнымі знаходкамі, а ўвогуле даць уяўленне пра гэту цікавую старонку рэвалюцыйнай гісторыі Беларусі, то ў нарысе ёсць спасылкі і на дакументы іншых архіваў, з якімі чытач ужо мог сустракацца як у спецыяльных зборніках, так і ў газетных і часопісных публікацыях.*

### 1.

АБВІНАВАЎЧЫ акт па гэтай справе* складаў памочнік пракурора Віленскай ваеннай акругі, падпалкоўнік, подпісу якога я, колькі ні намагаўся, так разабраць і не здолеў. Пяром і словам пан падпалкоўнік яўна валодаў, і паводле напісанага ім, а таксама прыкладзеных да акта дакументаў следства, не так ужо цяжка ўявіць Саборную плошчу Мінска — цяпер плошчу Свабоды — каля першай гадзіны апоўдні 14 студзеня 1906 года.**

Дамо спачатку волю ўяўленню слыхавому. Хай увойдзе вам у вушы жалобная медзь духавога вайсковага аркестра, густабасовае «Госпадзі, памілуй!» царкоўнага хору, самавітае пакашліванне прыбліжаных да алтара, нясмелы пошап цікаўнага натоўпу ў самім храме і звонку, на цвінтары... У Петрапаўлаўскім саборы адбываецца адпяванне — надоечы сканаў і сёння будзе аддадзены зямлі начальнік мясцовай брыгады генерал-маёр Курч. Генералаў у Мінску не так ужо многа, і поруч з удавой нябожчыка, поруч з яго братам стаяць у царкве, дабрачынна схіліўшы галовы без шапак, і сам губернатар, камергер двара яго імператарскай вялікасці Павел Рыгоравіч Курлоў, і віцэ-губернатар Чарнцоў, і важныя чыноўнікі губернатарскай канцылярыі Зарын і Севяргін, і паліцмайстар горада Нораў, і яшчэ шмат хто ў вайсковых і цывільных мундзірах. Многа таксама гарадавых. Мінск апошнім часам не самы спакойны ў Расіі горад, і, прынамсі, паліцмайстар Нораў не-не ды насцярожана азірнецца — шэсць тыдняў назад пад экіпаж яго, калі ён ехаў з дакладам да губернатара, кінулі самаробную бомбу...

Апошнія словы прэасвяшчэннага Міхаіла, епіскапа Мінскага, апошнія рыданні хору, і вось ужо афіцэры з жалобным крэпам на рукавах забіраюць падушачкі з ордэнамі нябожчыка, вянкі, века труны. Вось ужо ўзята на плечы самых важных асоб губерні сама труна — па вузкім калідоры, утвораным у натоўпе салдатамі і гарадавымі працэсія павольна рухаецца на вуліцу да катафалка. Па правую руку губернатара прыстаў Лапцеў, поплеч з віцэ-губернатарам і паліцмайстрам — таксама ахова.

Чалавек, які праз некалькі мінут зробіць учынак, што назаўжды паставіць яго імя ў шэраг неўміручых, праціснуўся ў гэты момант да самых дзвярэй сабора. Старэнькае, выгаралае аж да рудога адцення паліто, бывалая баранкавая шапка, з-пад якой выбіваліся даўно не стрыжаныя кучары, касмылястая бародка, ці то хваравіты, ці то хмяльны бляск у вачах—усё гэта, вядома, не магло выклікаць прыязнасці ў «чыстай» публікі. Марыя Мікалаеўна Старава, дваранская дачка 27 гадоў, на допыце ў следчага потым паказала: «Паводзіны і сам выгляд здаліся мне настолькі падазронымі, што калі б на пахаванні прысутнічаў брат мой, памочнік прыстава 2-й часці, дык я абавязкова звярнула б яго ўвагу на дзіўнага чалавека...»

На момант яны сутыкнуліся ля дзвярэй ледзь не твар у твар — губернатар Курлоў і чалавек, за якім мы пачалі сачыць. Пройдзе некалькі тыдняў, і гэтая акалічнасць будзе вывучацца і абмяркоўвацца. Але на той момант высокай увагі не зачапіў нічый твар або позірк. Перасмыкнуў плячыма губернатар проста ад холаду—ён пайшоў з трунаю на вуліцу як быў у час малебна, без шынялю, а на двары стаяў усё-такі студзень.

Вось ужо труна стаўляецца на катафалк, і губернатар таксама прытрымлівае яе сваімі дужымі рукамі (пад вечар медыцынскія эксперты пачнуць пратакол для следчага так: «Курлоў Павел Рыгоравіч, 46 гадоў, росту вышэй сярэдняга, моцнага складу цела, харчавання добрага...»). Вось ужо губернатару падаюць і памагаюць уздзець мікалаеўскі, на чырвонай падкладцы, шынель. Аркестр грыміць «Коль славен». І тут...

Стоп. На момант спынімся. Паспрабуем пагледзець на тое, што зараз адбудзецца, з розных пунктаў агляду, вачыма розных людзей.

Спачатку — вачыма самога губернатара. Неўзабаве пасля грамадзянскай вайны, калі Курлоў даўно ўжо не быў ні губернатарам, ні шэфам расійскіх жандараў (яго пазнейшая, пасля Мінска, пасада), а дажываў свой век уцекачом за мяжой, ён выпусціў у Германіі кніжку мемуараў «Канец рускага царызму». Пагартаем гэтую кніжку—у 1923 годзе яна была выдадзена і ў Маскве—і пашукаем расказ пра падзею, на якую колішні губернатар і камергер наўрад ці мог калі-небудзь забыцца, як ні трэсла яго жыццё пазней. Так і ёсць, не забыўся: «Пасля заканчэння службы я разам з іншымі.... вынес труну з царквы і паставіў яе на каляснічу... Раптам я адчуў лёгкі ўдар у галаву, на які не звярнуў увагі, думаючы, што з прычыны адлігі на мяне ўпаў з даху невялікі камяк снегу. Да мяне падбег правіцель канцылярыі губернатара са словамі: «Ваша правасхадзіцельства, бомба!» Я паглядзеў уніз і ўбачыў ля маіх ног чатырохкутны скрутак, загорнуты ў шэрую паперу...»

Вачыма прыстава Лапцева—зірнем у яго паказанні следчаму: «І тут я ўбачыў, што ад левага боку цвінтара ў нашым кірунку ляціць нейкі прадмет, які ў першы момант прыняў за шапку. Прадмет гэты, ударыўшы губернатара ў галаву, скаціўся мне на плячо, потым на калена і, нарэшце, на зямлю. Толькі калі я ўбачыў прадмет на зямлі, то па велічыні і форме, падобных да снараду, кінутага нядаўна ў паліцмайстра Норава, здагадаўся, што гэта бомба...»

Вачыма Марыі Рыгораўны Старавай—маці той Марыі Старавай, пра паказанні якой мы ўжо ўспаміналі: «Калі труну паставілі на катафалк, невядомы (ён стаяў на цвінтары побач са Старавай.—**У. М.**) падняў руку, трымаючы ў ёй нейкі прадмет, які і кінуў праз галаву меншай дачкі (з Марыяй Рыгораўнай была ў саборы яшчэ 17-гадовая дачка Вера, жонка чыноўніка губернатарскай канцылярыі Зяновіча-Кашчанкі.—**У. М.**) у бок губернатара. Яшчэ ў той момант, калі ён рыхтаваўся кінуць, я здагадалася, што ў яго руках бомба і, інстынктыўна жадаючы перашкодзіць задуманаму, штурханула яго ў локаць...»

Штуршка Марыі Рыгораўны чалавек побач з ёю, відаць, не адчуў, бо пацэліў усё-такі кінутай бомбай у самую галаву губернатара. А можа штуршка гэтага і не было зусім—проста Старавай захацелася выглядаць перад следчым, перад сынам-паліцэйскім ды і ва ўласных вачах яшчэ большай патрыёткай. Яны ж не ведалі тады, ні маці, ні дачка, што і зробленага імі ў тую стылую студзеньскую суботу куды як дастаткова, каб і праз дзесяткі гадоў пра іх вось успомнілі і аддалі ім, так сказаць, належнае.

Старшаму гарадавому Міхаілу Пархімовічу давялося перавозіць бомбу, кінутую нядаўна ў паліцмайстра,—яна не разарвалася і яе выцягнулі з-пад экіпажа. Таму, заўважыўшы, што чыясьці рука ўзнялася над галовамі ў натоўпе і шпурнула ў губернатара пакет, падобны на тую бомбу, ён спачатку скамянеў ад страху. Але выбух зноў не адбылося, і Пархімовіч схамянуўся—рынуў туды, дзе паднялася рука. Тут ён і ўбачыў абедзвюх Старавых за самым што ні ёсць шляхецкім, высакародным жаноцкім заняткам. Паўсагнутаму чалавеку, які шпурнуў пакет,—ён, высветлілася пазней, паспрабаваў было ўцячы — маладая Старава ўчапілася ў валасы, старая—у паліто, і абедзве нема лемантавалі.

Пархімовіч, прыстаў Жыгулін, яшчэ паліцэйскія перахапілі ў іх гэтага чалавека, скруцілі яму рукі, а Старавы ўсё яшчэ крычалі: «Трымайце!», і Марыя Рыгораўна не-не ды прымудралася стукнуць затрыманага кулаком па галаве...

Страшна гэта і небяспечна—абывацель. Дурны, цёмны, самазадаволены, ён заўсёды прагны да крыві—як у пераносным, так і ў літаральным сэнсе слова. І заўсёды люта, азвярэла ненавідзіць усё, што не такое, як ён. Усё, што імкнецца да нечага яму непатрэбнага, незразумелага.

Чалавек, якога трымалі паліцэйскія, быў зараз для натоўпу на Саборнай плошчы ўвасабленнем гэтага непатрэбнага і незразумелага. І яго яўна можна было беспакарана біць—у абывацеля на гэткія рэчы нюх тонкі! Дык чаму ж адным Старавым такое задаволенне?! Бомбу кінуў, рэвалюцыянер, значыць, сацыяліст. Нябось, яшчэ жыд? Не жыд? Хрысціянін? Усё роўна—бі, браткі! Пад самы дых, каб не ўстаў! І па мордзе, па мордзе... Мне, мне дай ударыць!..

У абвінаваўчым акце гэты момант пададзены, вядома, больш стрымана: «Раззлаваная публіка накінулася на злачынцу і пачала яго біць... Паліцмайстру Нораву і яго памочніку Хацяновічу ледзь удалося яго вырваць ад раз'юшанага натоўпу... Затрыманага акружылі гарадавыя і адправілі ў 1-ю паліцэйскую часць. Услед за гэтым губернатар Курлоў паехаў...»

Тут пан падпалкоўнік, які складаў абвінаваўчы акт, дазволіў сабе маленькую недакладнасць. Так сказаць, далікатнага характару. Бо Курлова на момант, калі бомбамятальніка павялі з плошчы, ужо і блізка не было каля сабора. Пра гэта гавораць і сведкі, і сам ён у памянёнай кніжцы. Праўда, спасылаецца ён пры гэтым на паліцмайстра—маўляў, паліцмайстар, як толькі ўбачыў ля губернатарскіх ног небяспечны скрутак, «папрасіў мяне сесці ў экіпаж і паехаць дамоў, што я і зрабіў».

Але не будзем чапляцца да дробязей. Хай сабе губернатар пераводзіць дома дух. Мы застанемся на месцы, бо незвычайным падзеям ля сабору Пятра і Паўла наканаваны яшчэ працяг.

«Калі гарадавыя з арыштаваным рушылі, я пачуў ззаду стрэл і мне здалося, што мне апаліла шыю,—чытаем у пратаколе допыту паліцмайстра Норава.— На стрэл я павярнуўся і ўбачыў, што ў адлегласці ад мяне ўсяго крокаў на чатыры з рэвальверам браўнінгам у руцэ, працягнутай у мой бок, стаіць нейкая жанчына. Яна паспела зрабіць у мяне яшчэ адзін стрэл, але прамахнулася...»

Жанчына была невысокага росту, вельмі кволая з выгляду. Даўгое чорнае паліто і чорная ж хустка адцянялі бледнасць, амаль бяскроўнасць яе твару. Страляла яна з пісталета, запомніў гарадавы Трафім Лебедзеў, загорнутага ў белую насоўку і зажмурыўшы вочы. Але паліцыю не стрымала нішто. Прыстаў Сулейман Паўтаржыцкі падскочыў да жанчыны ззаду, паваліў на зямлю, крутануў за руку, адводзячы ад асобы пана паліцмайстра стрэлы,—жанчына ўсё роўна яшчэ націснула разоў два ці тры на курок. Памочнік паліцмайстра Сцяпан Хацяновіч пачаў выламваць ёй пальцы, вырываючы пісталет. Астатнія паліцэйскія таксама, што называецца, засталіся на вышыні...

У дакументах следства захаваліся фатаграфіі абодвух арыштаваных, зробленыя праз суткі. На твары жанчыны—сляды самых жорсткіх пабояў. Твар дэфармаваны, з цёмнымі плямамі. Левага вока з-за вялізнай пухліны амаль не відно...

Нават у паліцмайстра Норава і то не вытрымалі нервы. Калі аглушаная пудовымі кулакамі гарадавых (праз дзень-два высветлілася, што ад пабояў у яе лопнула ў вуху барабанная перапонка), акрываўленая, амаль непрытомная жанчына паспрабавала прыўзняцца з зямлі, ён выхапіў рэвальвер і амаль ва ўпор два разы ў яе стрэліў. Потым дужа саромеўся. Не таго, праўда, што дазволіў сабе не па чыну страціць самавалоданне—страляць у бездапаможнага чалавека, ды яшчэ жанчыну—а таго, што не папаў. Ён, хто так муштраваў за няцвёрдую руку гарадавых!.. Па ходзе следства яму паказалі кулю, падабраную на плошчы неўзабаве пасля яго стрэлаў. Нораў прызнаў, што «знойдзеная свінцовая куля па калібру супадае з тымі, якімі ў дзень здарэння быў зараджаны мой рэвальвер сістэмы «Сміт і Весон». Кулі, якімі быў зараджаны мой рэвальвер, аказаліся малымі для ствала, чым я і тлумачу безвыніковасць стрэлаў...»

Акружаную шчыльным кальцом аховы жанчыну павялі ў паліцыю. Пахавальная працэсія — пра яе неяк нават забыліся сярод незвычайных падзей апошніх мінут—паспешна, нібы ўсведамляючы сваю недарэчнасць на гэты момант, з дужа парадзелым хвастом рушыла да могілак. Рэшта гарадавых і салдаты пачалі праганяць ад сабору і наогул з плошчы ўсхваляваны натоўп.

А непадалёк ад цвінтару, на тым самым месцы, куды ўпаў ён з галавы губернатара, яшчэ ляжаў злашчасны пакет. Ляжаў і мок пад рыхлымі адліжнымі сняжынкамі. Цяпер над ім асцярожна варажылі эксперты.

«Пры аглядзе каробкі, кінутай у губернатара Курлова,—чытаем у абвінаваўчым акце,—знойдзена: пакет цэглападобнай формы, даўжынёй каля дзевяці, шырынёй—чатырох і вышынёй каля двух дзюймаў, загорнуты ў жоўтую паперу і перавязаны крыж-накрыж вяровачкай, маючы такім чынам выгляд пакупкі. Пад паперай выяўлена медная паяная скрынка з векам ацынкаванага жалеза, надзетым на скрынку і прывязаным да яе крыж-накрыж медным дротам, вагой каля пяці фунтаў...»

Літаратурны стыль у экспертаў (а гэта іх пратакол даслоўна перанесены ў акт) не самы празрысты і, трэба думаць, вагу каля пяці фунтаў мела ўся скрынка, а не медны дрот, як вынікае з логікі напісанага.

На даўжэзным почапе скрутак пацігу, з мерамі перасцярогі, пацягнулі на сквер да прыгатаванага вогнішча. Усунулі ў гэтае вогнішча і затаіліся ў чаканні. Праз тры-пяць мінут у агні затрапяталіся ружовыя языкі, а затым ірванулі выбухі—кароткі, не дужа моцны і следам доўгі, магутны. Дзе было вогнішча, зачарнела яміна. Агонь раскідала па скверы. У вокнах сабору, да якога было ад месца выбуху крокаў дзвесце, павыбівала шыбы. Эксперты зрабілі вывад, што «разрыўны снарад быў начынены

---

*) Аўтар лічыць сваім абавязкам выказаць падзяку кандыдату гістарычных навук літаратуразнаўцу Г. В. Кісялёву, супрацоўніку Маскоўскай фундаментальнай бібліятэкі па гуманітарных навуках Р. Р. Крычэўскаму і супрацоўніку БелСЭ М. І. Камінскаму за парады і дапамогу ў пошуках матэрыялу, выкарыстанага ў нарысе.

**) Усе даты даюцца па старым стылі.

дынамітам; сілаю выбуху людзі, што знаходзіліся б у сферы яго дзеяння не далей, як на два сажні, былі б разарваны на кавалкі, а на больш далёкай адлегласці панеслі б больш або менш цяжкія пашкоджанні...»

Абышлося ўсё ахвярамі намнога меншымі. У губернатара Курлова судова-медыцынская экспертыза выявіла «на вобласці левага цемяннога бугра... нязначную прыпухласць скуры няправільнай формы, памерам з трохкапеечную медную манету, крыху пастознай кансістэнцыі і па колеры з малым адрозненнем ад звычайнай скуры. На вяршыні гэтай прыпухласці—драпіна свежага паходжання... даўжынёй у адзін сантыметр і шырынёй у адну трэцюю сантыметра...»

У паліцмайстра Норава адшукалі адно дзірку ў «каўняры паліто, а роўным чынам і ў адпаведным месцы самога паліто, прыкрытым каўняром...»

Крыху больш пацярпелі людзі зусім выпадковыя: салдат Захар Патапаў, якому чыёйсьці куляй злёгку зачапіла кісць правай рукі, і паштальён Фама Ганчарык, якому прабіла палец...

Бомба ў патрэбны час не разарвалася. Выпадкова ці не—мы яшчэ на гэты конт памяркуем.

## 2.

МУЖЧЫНА назваў сваё імя адразу — Іван Пятровіч Пуліхаў.

Жанчына на першым допыце на ўсе пытанні адказваць адмовілася. Але паліцыя ўстанавіла вельмі хутка—завуць арыштаваную Аляксандра Адольфаўна Ізмайловіч.

У абвінаваўчым акце, ва ўсіх следчых і судовых дакументах, у перапісцы па гэтай справе паміж ведамствамі—словам, усюды, дзе прадстаўленне мае характар афіцыйны, называюцца нашы героі не інакш, як «сын калежскага асесара» і «дачка генерал-лейтэнанта»: «У сувязі з разглядам справы аб сыне калежскага асесара Іване Пятровічу Пуліхаве і дачцы генерал-лейтэнанта Аляксандры Адольфаўны Ізмайловіч...» і да т. п.

Даніна традыцыі? Абавязковы на той час канцылярызм? Вядома, так. Але ў пэўнай ступені—свядома ці несвядома—яшчэ і прыніжэнне, знявага. Маўляў, вы толькі ва ўласных вачах і ў вачах сваіх хаўруснікаў—змагары, асобы, нешта вартае само па сабе. А для нас, для законапарадку, для ўлады—звычайныя шкадлівыя недарослі, гарладзёры без чыну і звання, ганьба сваіх прыстойных бацькоў. І лёгка ўявіць, з якой фарысейскай спагадай на тварах гарталі абвінаваўцы і суддзі прыкладзеную да справы копію бездакорнага паслужнога спіса шасцідзесяцігадовага артылерыйскага генерала Адольфа Вікенцьевіча Ізмайловіча (у самым канцы—рэзюме: «У службе гэтага генерала не было акалічнасцей, якія пазбаўлялі б яго права на ўзнагароджанне знакам адзнакі беззаганнай службы ці аддалялі тэрмін выслугі да яго») або чыталі пратакол першага допыту следчым тапографа ляснога ведамства Мінскага губеранскага ўпраўлення земляробства і дзяржаўнай маёмасці Пятра Матвеевіча Пуліхава:

«Сыну майму Івану Пятровічу Пуліхаву будзе цяпер гадоў 25—26, дакладней узрост яго назваць не магу, але ў мяне ёсць метрыка яго, якую я вам і дастаўлю. Запісаны ён і ў маім фармуляры. Выхоўваўся ён у Мінскім рэальным вучылішчы, але кончыў толькі шэсць класаў і выбыў з сёмага—дадатковага месяцы за два ці тры да заканчэння, насуперак маёй волі, сказаўшы, што ён паедзе ў Пецярбург і там здасць экзамены на атэстат сталасці, а потым паступіць ва універсітэт. У Пецярбурзе ён пражыў усяго год і адтуль быў высланы. Прыехаўшы ў Мінск, ён спачатку пасяліўся ў мяне. Над ім быў устаноўлены нагляд паліцыі, які аднак адмянілі, калі з Пецярбурга прыслалі яго дакумент. Гэта было гады тры назад. Паколькі я маю вялікую сям'ю, а сродкамі валодаю вельмі абмежаванымі, то я сказаў сыну, каб ён пастараўся знайсці сабе які-небудзь занятак і існаваў на ўласны заробак. Сын наняў недзе на Траецкай гары кватэру і пачаў займацца ўрокамі.* Адведваў ён мяне рэдка і пра знаёмствы яго я не меў ніякага ўяўлення. Увосень мінулага года этапным парадкам прывезены быў ён у Мінск і яго ў маю адсутнасць прывяла паліцыя да мяне на кватэру для ўдакладнення асобы. Жонка асобу Івана пацвердзіла і яго вызвалілі, але ён, прабыўшы ў мяне вельмі нядоўга, некуды пайшоў, і калі я вярнуўся дамоў, дык яго ўжо не было. Затым апошні раз сына бачыў я за тыдзень—паўтара перад калядамі, калі хворы ляжаў я ў пасцелі. Пасядзеўшы ў мяне ўсяго некалькі хвілін, ён пайшоў, пажадаўшы мне хуткай папраўкі... Да ўчарашняга дня**, калі паліцыя прыехала да нас рабіць вобыск, аб тым, што сын кінуў у губернатара бомбу, я нават і не чуў. Палітычных перакананняў яго я зусім не ведаю, разумова быў ён развіты даволі грунтоўна, характару быў ціхага і спакойнага. Хто прывёў яго ў асяроддзе рэвалюцыянераў, не ведаю, і наогул пра тое, якія ў яго былі знаёмствы, ніякіх рашуча ўказанняў даць я не ў стане».

Назаўтра ён прыйшоў да следчага зноў. Прыйшоў сам, без напамінку і запрашэння. «Згодна дадзенаму ўчора пры допыце абяцанню я прынёс і перадаю вам, следчы, метрыку аб нараджэнні і хрышчэнні сына».

Педант-следчы склаў яшчэ адзін пратакол і справа папоўнілася дакументам аб тым, што «ў метрычных кнігах Мінскага кафедральнага Петра-Паўлаўскага сабора за 1879 год пад № 42 у 1-й частцы аб нараджэннях запісана так: тысяча васемсот семдзесят дзевятага года дваццаць чацвёртага жніўня нарадзіўся, а дваццаць шостага хрышчоны Іван; бацькі яго: каморнік ляснога ведамства Пётр Матвеевіч Пуліхаў і законная жонка яго Міхаліна Феліцыянаўна, абое праваслаўныя».***

* Ужо калі гэты нарыс рыхтаваўся да друку, П. У. Броўка перадаў у рэдакцыю «Літаратуры і мастацтва» пісьмо, атрыманае ім нядаўна з Петрапаўлаўска (Казахстан) ад С. І. Зянковай. Аўтар пісьма ўспамінае, як у гады яе маленства да іх у дом на Турэмным завулку ў Мінску прыходзіў студэнт-рэпецітар, вельмі падобны знешне, як піша Зянкова, «на вынаходцу радыё А. С. Папова». Гэтага рэпецітара звалі Іван Пятровіч Пуліхаў.

** Пятра Матвеевіча дапытвалі 16 студзеня, праз два дні пасля падзей на Саборнай плошчы.

*** У некаторых ранейшых публікацыях годам нараджэння І. П. Пуліхава памылкова называўся 1880.

Я ўглядаюся ў партрэт Пятра Матвеевіча. Плячысты, самавіты асілак з пышнай барадой. У позірку—воля, цвёрдасць характару, упэўненасць...

Я слухаю ўспаміны яго дзяцей і ўнукаў. Так, пацвярджаюць яны, яшчэ на іх памяці, калі быў Пётр Матвеевіч ужо зусім стары (ён памёр недзе на пачатку 20-х гадоў), заставаўся ён чалавекам цвёрдым, валявым, не дужа лёгкім.

Я раблю няхітры разлік. Следчы запісаў у пратаколе, што Пятру Матвеевічу 62 гады. А малодшыя дзеці яго нарадзіліся праз пяць, сем, дзевяць гадоў пасля суда над Іванам. Выходзіць, гаварыў са следчым не знясілены дзядуля, а мужчына ў поўнай фізічнай і духоўнай моцы.

Чаму ж такая разгубленасць, старэчая прыгорбленасць у яго паказаннях? Што тут—невымернасць бацькоўскага гора? Безумоўна. І да таго ж—яго яшчэ адзін раптоўны «дзявяты вал»: следчы папярэдзіў аб хуткай—праз два дні—працэдуры ўстанаўлення асобы арыштаванага, г. зн. аб сустрэчы з сынам у турме.

І ўсё-такі была, думаецца, яшчэ і іншая прычына ў гэтай ніколі да таго і пасля таго невядомай Пятру Матвеевічу атрафіі пачуцця ўласнай годнасці. Кола яго інтарэсаў усё жыццё было абмежавана толькі домам і службай. Хоць знаходзіўся ён на нізкай прыступцы дзяржаўнай іерархічнай лесвіцы (калежскі асесар—восьмы з чатырнаццаці чыноў у чыноўніцкім табелі аб рангах), але прывык ганарыцца і самім фактам свайго знаходжання на гэтай лесвіцы (праз месяц сваё прашэнне на імя камандуючага Віленскай ваеннай акругі з гэтага і пачне: «Праслужыўшы 36 гадоў на дзяржаўнай службе...»), і прыхільнасцю, добрымі адносінамі начальства (на срэбраны медаль у памяць царавання Аляксандра III, які насіў Пётр Матвеевіч па ўрачыстых днях, з зайздрасцю пазіраў служылы люд з малодшых).



Вось яно, фота Івана Пуліхава, якое было зроблена ў паліцэйскім участку назаўтра пасля замаху. Публікуецца ўпершыню.

Тое, на што адважыўся Іван, было за рамкамі бацькавага разумення. Ну, ударыў бы, ідучы з шынка, гарадавога. Ну, аблаяў суцягу столаначальніка. Ну, кінуўся з сякерай на падатковага інспектара. Нешта такое Пётр Матвеевіч мог бы яшчэ зразумець. Яму і ранейшыя сынавы непаразуменні з паліцыяй уяўляліся нечым з гэтага раду—маладое, дурное, ачомаецца. Але замах на губернатара—гэта было задужа. Гэта было не ўцяміць Пуліхаву-старэйшаму на той адлегласці, што аддзяляла яго ад сына. І якраз усведамленне гэтай адлегласці, немагчымасць прасякнуць у сынава сэрца, узняцца сваім розумам да яго розуму і намераў, падзяліць яго боль—хіба не маглі яны таксама сагнуць, знясіліць чалавека? У дадатак, паўтараем, да звычайнага бацькоўскага гора...

Дакументаў, якія б засведчылі нам стан другога бацькі—генерал-лейтэнанта Адольфа Вікенцьевіча Ізмайловіча, ні ў папцы следчага, ні ў матэрыялах суда няма. Начальнік артылерыі 4-га армейскага корпуса, ён ужо год як знаходзіўся на маньчжурскай граніцы. І заставаўся там пасля тэлеграмы пра арышт дачкі. Хто ведае—не адпускала служба, усведамляў сваю бездапаможнасць, або проста загадаў сабе, вернаму царову слугу, вырваць такую дачку з сэрца...

Гарадавы Трафім Лебедзеў, які звярнуў увагу на тое, што пісталет у жанчыны, якая страляла ў паліцмайстра, быў загорнуты ў насоўку і страляла яна зажмурыўшы вочы, паказаў яшчэ, што «страляўшую паненку я ведаю даўно, бо, знаходзячыся на службе ў Серпухоўскім палку, мне неаднаразова даводзілася бываць у генерала Ізмайловіча... Адразу ж, яшчэ ў час здарэння, у мяне мільганула, што гэта дачка генерала Ізмайловіча, але паколькі мне ніяк не верылася, каб генеральская дачка магла пайсці на такое злачынства, то я да пары, да часу маўчаў...»

Тое, у што цяжка было паверыць гарадавому Лебедзеву (і канечне — не аднаму яму) — з'ява, між тым, у тагачаснай Расіі не такая і рэдкая. Існуе пашыраная, зразумелая, простая, як двойчы два, схема: зведаўшы з маленства нястачы, голад, гора, ён (яна) выходзіць у сталыя гады на дарогу рэвалюцыйнай барацьбы з эксплуататарамі. Але як часта з гэтай схемай трапляеш у тупік, прыкладаючы яе да канкрэтнай біяграфіі. Соф'я Пяроўская ідзе на эшафот як адзін з актыўных арганізатараў забойства Аляксандра II, а яна—дачка члена савета міністра ўнутраных спраў. Марыя Фёдараўна Андрэева — функцыянер рабочай партыі, чалавек блізкі Леніну, а першы муж яе—сапраўдны стацкі саветнік, прадстаўнік вышэйшых колаў чыгуначнай адміністрацыі. Інеса Арманд—жонка буйнейшага фабрыканта. Алена Дзмітрыеўна Стасава—з сям'і высокага пецярбургскага чыноўніка...

Абвостранае пачуццё спагады пакрыўджанаму, прыгнечанаму, прыніжанаму—спрадвечная ўласцівасць перадавой расійскай інтэлігенцыі. Агульнанародны боль станавіўся нясцерпным уласным болем для лепшых яе прадстаўнікоў. І вырастаў у песняра сялянскай нядолі сын прыгонніцы - ліхадзейкі Мікалай Някрасаў. І рабіліся лютымі ворагамі суседзі па лесвіцы ў рэспектабельным пецярбургскім доме — катграданачальнік Трэпаў і журналіст Салтыкоў-Шчадрын. І ішлі ў народавольцы, у баявікі-тэрарысты, у бальшавікі паненкі, якіх таты і мамы рыхтавалі ў дабрачынныя карункава - фартэпіянныя жонкі надворных саветнікаў, і панічы, народжаныя, каб у гэтых надворных саветнікаў вырасці. «Чаго ім не хапала? Шалеюць з раскошы!» — пацепваў плячыма абывацель, сустракаючы іх імёны ў ліку асуджаных на шыбеніцу, на катаргу, на цэлі Петрапаўлаўскай крэпасці. Што-небудзь пра помсту за асабістую крыўду ён мог бы яшчэ ўцяміць. Пра самаахвярнасць у імя вялікай мэты, пра боль за краіну, за грамадства, за народ — ніколі!..

Генералу Ізмайловічу, з пункту гледжання такога абывацеля, з дзецьмі не пашанцавала дужа. 14 студзеня адна з яго дачок, Аляксандра, страляе ў Мінску ў паліцмайстра Норава, а 27 студзеня — не міне і двух тыдняў — другая дачка, Кацярына, таксама член партыі сацыялістаў - рэвалюцыянераў, будзе страляць у Севастопалі ў ката рэвалюцыйных матросаў адмірала Чухніна, і лёгка паранены адмірал загадае яе тут жа, на месцы, расстраляць...

## 3.

МНОГАЕ з таго, што было таямніцай для сваякоў і блізкіх нашага героя, па сённяшні дзень застаецца таямніцай і для нас. Ні ў час следства, ні на судзе Пуліхаў не гаварыў ні пра таварышаў, з якімі разам рыхтаваў замах, ні пра акалічнасці свайго далучэння да рэвалюцыйнага руху. Ёсць толькі скупыя ўскосныя звесткі, знойдзеныя даследчыкамі ў розных архівах. Збяром жа іх разам, пастроім па храналогіі падзей, пра якія яны расказваюць. Штрых за штрыхам, і ўяўленню адкрываецца дастаткова выразны малюнак. Хай сабе недзе пункцірны, а недзе зусім з прабеламі.

Так і пачнем—штрых за штрыхам.

Першы — даведка з рэальнага вучылішча. На запыт следчага дырэктар паспешна паведамляе, што «Пуліхаў Іван знаходзіўся ў ліку вучняў VII класа Мінскага рэальнага вучылішча і ў сакавіку 1900 года выбыў з азначанага вучылішча паводле прашэння бацькі свайго для паступлення ў ваенную службу вольнапісаным...»

Другі — фармулярны спіс аб службе Пятра Матвеевіча Пуліхава, які захоўваецца ў дзяцей і ўнукаў. Самі службовыя перамяшчэнні Пятра Матвеевіча і пералік атрыманых ім заахвочванняў нас, вядома, цікавяць не дужа. Але ў канцы фармуляра адзначана: «Выдадзена яму з Мінскага ўпраўлення дзяржаўных маёмасцяў з прычыны яго аб тым хадайніцтва на прадмет прадстаўлення такавой у Маскоўскі Кан-

# БРАТЭРСТВА, АБПАЛЕНАЕ АГНЁМ

Нядаўна споўнілася 25 гадоў з дня бітвы пад Леніна. Тут прыняла свой першы бой першая дывізія Войска Польскага. Тут быў пакладзен пачатак не толькі гісторыі новай польскай арміі. Пад беларускай вёскай фактычна пачыналася гісторыя новай, Народнай Польшчы, гартавалася наша дружба, наша баявое братэрства з польскім народам. Аб дружбе і братэрстве расказвае новы дакументальны фільм «Пабрацімы» рэспубліканскай студыі тэлебачання ў Мінску (сцэнарый А. Браілоўскага, рэжысёры В. Басаў і І. Рудамётаў).

Гэты фільм вяртае нас да падзей, удзельнікамі якіх былі многія з нас, і кінакадры з'яўляюцца для адных цяжкім і хвалюючым успамінам, для другіх, маладых, яны павінны быць цікавай і павучальнай аповесцю аб днях мінулых, гераічных і суровых, аб тым, як пабрацімы змагаюцца за шчасце і свабоду.

Летам гэтага года ў Леніна сабраліся прадстаўнікі савецкай і польскай грамадскасці, каб адзначыць юбілей той гістарычнай падзеі. Сюды прыехалі партыйныя і дзяржаўныя дзеячы, палкаводцы СССР і Польшчы, людзі з сівізной у валасах і бязвусыя юнакі. Яны зноў перажылі тое, што захоўваецца ў сэрцы. Каб паказаць, як два народы прыйшлі да такой урачыстасці, аўтары фільма гартаюць старонкі гісторыі, «крочаць» дарогамі Войска Польскага, запрашаючы і нас, гледачоў, азірнуцца. Гэта вельмі павучальна.

...Першыя ўдары фашыстаў па Польшчы. Разбурана Варшава. Разбіта польская армія. Нямецка-фашысцкія захопнікі ідуць наперад. У іх кружыцца галава ад поспехаў. Скорана амаль уся Еўропа.

Кінакадры — не толькі жывыя сведкі, яны і абвінаваўцы. Гістарычныя цяпер колішнія здымкі няўмольна абвінавачваюць тых, хто здрадзіў польскаму народу, хто кінуў яго ворагу пад ногі.

...У кабінеце Міхаіла Іванавіча Калініна сядзіць польскі генерал Андэрс. Трымае сябе фанабэрыста. Відаць, што гэты ваяка не зрабіў ніякіх вывадаў з трагічных падзей у верасні 1939 года. І яшчэ раз здраджвае свайму народу: ён выводзіць польскую армію за межы Савецкага Саюза, ухіляецца ад баёў, прасцей кажучы, дэзерціруе.



Кадр з фільма «Пабрацімы». Былы камандзір партызанскага атрада, цяпер член Палітбюро ЦК ПАРП Мечыслаў Мочар (другі злева) сярод савецкіх разведчыкаў у гады вайны.

Але не андэрсам суджана было вырашыць лёс Польшчы, польскага народа. І фільм вельмі яскрава і пераканаўча паказвае гэта. У той час, калі савецкія салдаты з баямі падыходзілі ўжо да Дняпра, на беразе рускай ракі Акі збіраліся салдаты будучай польскай арміі. Яны ішлі і ішлі сюды з усіх канцоў нашай краіны, праз фронт. Тут яны вучыліся валодаць зброяй і біць ворага. Тут яны пакляліся памерці ці дайсці да Варшавы, да Берліна! І на экране — хвалюючыя хвіліны прысягі. Твары суровыя, погляды ўпэўненыя.

...Бой пад Леніна. Першы бой першай дывізіі Войска Польскага. У магутную хвалю савецкага наступлення ўліваецца невялічкі пакуль што струмень і польскага баявога агню.

Б'юць гарматы, руйнуюць бастыёны нямецкай абароны.

— Агонь! — камандуе савецкі афіцэр.

— Огня! — камандуе польскі афіцэр...

Сімвалічныя кадры! Адчуваеш, бачыш, што гэтыя ўдары кладуць пачатак сапраўднага вызвалення Польшчы.

Кадр за кадрам, старонка за старонкай экран паказвае як расце і ўмацоўваецца ў садружнасці з нашай польская армія. Баявыя справы яе множацца, яна гартуецца ў суровых бітвах з ворагам. Рады яе растуць з дня ў дзень. Неўзабаве яна вырастае да чатырохсот тысяч. Мы прыйдзем з ёю не толькі ў Варшаву, але і ў Берлін. Трэба сказаць, што работнікі тэлебачання знайшлі шмат каштоўнага дакументальнага кінаматэрыялу тых суровых дзён, рэдкія кадры, якія з'яўляюцца бескампраміснымі сведкамі вялікіх гістарычных падзей. Разам з тым, яны дапоўнілі іх новымі кіназдымкамі, зробленымі ў Народнай Польшчы, ва Уроцлаве, Кракаве і іншых мясцінах. Нараджаецца тэма — учора і сёння. І гэта робіць фільм не толькі цікавым і пераканаўчым, а і панарамным, ёмістым.

...Вызвалены першы польскі горад Люблін. Выратаваны Кракаў, горад-музей, старажытная сталіца Польшчы. І вось, нарэшце, Варшава. А што там робіцца сёння? Кароткімі, але яркімі кадрамі фільм прыводзіць нас на зямлю Польшчы, прыводзіць у гэтыя гарады і паказвае: вось яна, сённяшняя Народная Польшча. Вось за што змагаўся польскі народ, польская армія. Вось вынікі братэрскай дапамогі палякам савецкага народа.

Шмат думак нараджае прагляд гэтага кароткага фільма. І галоўная з іх — радасная думка аб тым, як умацавалася наша братэрства, непарушная дружба двух народаў. Міністр абароны Польскай Народнай Рэспублікі Ярузельскі на мітынгу ў Леніна, прысвечаным дваццаціпяцігоддзю бітвы, сказаў:

«Леніна адкрыла польскаму войску дарогу ў краіну, якая змагалася ва ўмовах акупацыі, стала неабходным этапам на шляху яго ў Варшаву і Берлін. Польскі воін-касцюшкавец на гэтым шляху дэманстраваў усяму свету вельмі важны пералом у польска-савецкіх адносінах. Значыць, гэта бітва была таксама гістарычным актам палітычнага характару, у аснове якога была думка польскіх камуністаў, якая найбольш поўным чынам была выказана ў праграме, створанай у акупіраванай краіне рэвалюцыйнай сілай польскіх працоўных мас — Польскай Рабочай партыяй. Менавіта на вашай гераічнай беларускай зямлі польскі салдат сустрэў сардэчную гасціннасць...»

Вялікую і карысную работу прарабіла беларускае тэлебачанне, сабраўшы каштоўны дакументальны кінаматэрыял. Творцы фільма былі вынаходлівымі, гэта асабліва адчуваеш па сцэнарыі і дыктарскім тэксце А. Браілоўскага. Ён у поўнай меры публіцыстычны, паступова і паслядоўна вядзе гледача па баявых шляхах Войска Польскага, скарыстоўваючы многа цікавых кадраў.

Нельга сказаць, што фільм не мае недахопаў. Слабавата паказана барацьба ў тыле ворага, на акупіраванай тэрыторыі, сувязь партызанскай і падпольнай барацьбы. Але гэта не віна стваральнікаў фільма: такіх кінадакументаў, як вядома, вельмі мала. Можна было б крыху больш канкрэтызаваць фільм, канкрэтна называць людзей і падзеі, геаграфію баёў і вызвалення зямлі. Але аўтар сцэнарыя захапіўся пафасам публіцыстыкі і вытрымлівае расказ у адным, трохі рытарычным, «ключы» з пачатку і да канца. Што ж, можа ён і мае рацыю, інакш, магчыма, давялося б пашыраць памеры фільма і мяняць агульную стылявую інтанацыю гучання.

Мабыць, стужка рыхтавалася да юбілейнай даты і таму ў ёй ёсць «рэцыдывы» плакатнасці не лепшага ўзору. Аднак агульнае ўражанне ўсё ж застаецца яркае. І такі твор вельмі дарэчы ў гэтыя дні.

М. ДОСІН.

# З БЕРАГОЎ ВІСЛЫ

**Канстанты Ільдэфонс ГАЛЧЫНЬСКІ**

## ПЕСНЯ АБ АЙЧЫНЕ

Айчына мая, ты як промень
высокі,
Як шлях, што да сонца адчынен;
Ты шумнае мора, з гор стромкіх
патокі,
Ты дзень мой, ты неба, Айчына.

Ты подзвіг народа майго гераічны,
Работа і танец вясёлы,
І вёскі, што зззяюць агнём
электрычным,
І дзеці, што крочаць у школу.

З табою скарыцца любая дарога.
Твой голас нам шчасце
прарочыць,—
Бо ты — гэта сонца, бо ты —
перамога,
Ты — гэта жыццё наша, Польшча.

Ты — гэта масты прыгажуні
Варшавы,
Ты — свята і хлеб наш надзённы.
Айчына, цябе ў сваіх песня
мы славім,
У змаганні і працы натхнёнай.

Ты — наша любоў, і надзея,
і вера.
Над Віслай, над Одрай свяці нам,
Айчына Шапэна, Айчына
Вальтэра,*
Народная наша Айчына.

Пераклаў Іосіф СКУРКО.

* Караль Сверчэўскі (генерал Вальтэр) — відны дзеяч польскага рэвалюцыйнага руху, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў узброеных сіл Польшчы.

**Ян КАПРОЎСКІ**

## МАЦІ

Гэта кабеты, якіх мужы пакінулі,
ім даверылі дзяцей дагадоўваць.
Маці клапоцяцца, маці шчыруюць,
сумныя маці,
змоўклыя маці.

А мужы пайшлі да каханак
з выпешчанымі тварамі і рукамі;
да каханак, што пахнуць ружамі
і язмінам,
да вясёлых і разлянелых.

Маці рана ідуць на фабрыку,
у кантору. Потым дадому
спяшаюцца,
мыюць, цыруюць, гатуюць абед,
і чакаюць сыноў,
што вяртаюцца недзе апоўначы.

Маці спакойныя, маці ўсміхаюцца,
маці ўсім задаволеныя.
Толькі падчас крадком,
калі не бачыць ніхто,
садзяцца на крэсла бязрадасна
і на прыпол апускаюць рукі.
І глядзяць на кропку, якой няма,
Маці,
Маці,
Маці.

Пераклаў Рыгор БАРАДУЛІН.

**Ян ГУШЧА**

## ЗАПІС

За акном — прыбыло снегу,
Галіны ў яблыні сталі таўсцей,
Пароша.
А ў печы спявалі бярозавыя
дровы,
Мы за вячэрай сядзелі,
Калі ўвайшлі з карабінамі двое.
Лыжкі з кашаю
ў нас апалі на стол.
Бацька да пары знаёмых
Сказаў колькі слоў
Сумленных.
Адзін з іх меў мышынае сэрца.
Гісторыя за бацькам прызнала
праўду,
Ды не магу напісаць у яго
на магіле,
Бо ніхто не ведае,
Дзе памёр.
Напэўна яму не хапіла крошкі
хлеба
альбо трох бульбін,
якія гадаваў ён ад дзеда,
ад прадзеда.

Пераклаў Анатоль КЛЫШКА.

**Тадэвуш ХРУСЦЯЛЕЎСКІ**

## КАСЦЁЛАК ПАД АЛЕСНА

Цераз топкія травы, дзе рудая
турыца
Ды качынае зелле без наймення
ільсніцца,
Дабрыдзеш да варотаў, калком
перакрытых,
Брамку пхнеш — зарыпіць...
і касцёлак, спавіты
Мохам, цвіллю, дажджом
вераўчынамі, раптам
Перашэпнецца гонтай, вецем,
ветрам шурпатым —
І пад дашкі прыгорне,
дзе ад рання да рання
Пяць каплічак у засені п'юць
слодыч маўчання...
Зверху долу крыжы, як буслочкі,
цікаўна
Узіраюцца ў кіслую жабіну багну.
У кожнай гэтай каплічцы жыве
сівая святая...

Але сёння ніводнай з іх дома
не мае.
У вокнах цёмна й на лаўцы
пад прызбаю пуста.
Апусціўшы галовы ў чорных
шлёнскіх хустах,
Пайшлі ў лес па срамотнік,
за смарчкамі цялістымі
Ды бабком ад падагры,
балотным, трохлістым —
Бо нялёгка ж у вільгаці асобам
адвечным
З алтара усміхацца ў колца,
нібы сланечнік,
І старэчы-напружана
выслухоўваць у змроку
Гуд жука ў трыснягу, звон
крынічкі далёкі...

Пераклала Ніна МАЦЯШ.

**Мацей Юзэф КАНАНОВІЧ**

## КАЛЫХАНКА

*Мацеку*

Калыхаліся моры далёкія,
Калыхаліся пушчы вялікія,
Нахіляліся вербы зялёныя,
нахіляліся сны паніклыя.

Калыхаліся хмары на небе,
Калыхаліся слёзы над вейкамі —
(Так далёка ты, сынку, недзе,
Без цябе мне так сумна,
маленькі мой.)

Калыхаліся нівы і зёлкі —
(Мы не ўбачымся, хлопчык,
ніколі.)
Калыхаліся ў возеры зоркі —
(Ты не знаеш тугі і болю).

Пераклаў Анатоль ВЯРЦІНСКІ.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

Казімір НЕСЯЛОЎСКІ

## УНІВЕРСАЛ ШТРАФАЎ

### ТАК СМЯЯЛІСЯ НАШЫ ПРОДКІ

*Ёсць сур'ёзнае падазрэнне, што беларусы пачалі смяяцца не з дня паяўлення першай лімаўскай «Трасянкі». І нават не з дня выхаду першага нумару «Вожыка». Смяяліся яны і сто, і дзвесце, і трыста гадоў назад. З'едліва — над чужаземнымі ворагамі ды ўласнымі прыгнятальнікамі. Дабрадушна — над сваімі недахопамі. «Прамова Мялешкі» і «Ліст да Абуховіча», «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», ананімныя гутаркі і сатыра Багушэвіча. Якія яшчэ патрэбны доказы таго, што беларусы смяяліся заўсёды?*

*І ўсё ж, калі пакапацца ў архівах ды бібліятэках, знойдуцца новыя важкія аргументы, новыя творы для «Трасянкі». Вось адзін з іх. У бібліятэцы АН Літоўскай ССР мною знойдзены зборнік, выдадзены ў Пінску ў 1743 годзе пад лацінскім загалоўкам «Otia Publica». Гэта таксама «трасянка» з «розных несур'ёзных рэчаў, публічных, хатніх, даўнейшых, пазнейшых, цяперашніх, новых», укладзеная маршалкам Навагрудскага ваяводства Казімірам Несялоўскім. Сярод розных эпіграм, эпітафій і прамоў на польскай і лацінскай мовах тут ёсць гумарыстычны «Універсал штрафаў». Аўтар прапануе сурова караць п'яніц і гультаёў, верціхвостак і марнатраўцаў, усіх тых, хто забываецца на сваё айчыннае і пакланяецца чужаземнаму.*

*Вось скарочаны пераклад самога «Універсала», які, акрамя ўсяго іншага, добра сведчыць аб тагачасных норавах і аб перадавых поглядах аўтара.*

Адам МАЛЬДЗІС.

ШЛЯХТА не павінна напівацца. Хіба што толькі багацейшая. І то, калі б хто перабраў меру, павінен заплаціць злотых два. А калі, падпіўшы, сварку завядзе—злотых дванаццаць. А калі, захмялеўшы, жонку паб'е — злотых шэсць.

Ад кожнага стала, засланага двума абрусамі, калі на іх сурвэткі па-італьянску пакладзены, — грошы 10. Ад масла з мігдаламі—па грошы 24, бо добрае і па-даўнейшаму збітае масла. Ад лімонных прыпраў—па грошы 15, бо нядрэнная смажаніна і з агурком або цыбуляй.

Ад кожнай рэчы непатрэбнай — па злотых 30. Ад ручнікоў, золатам шытых, ды так, што шэсць слуг адзін трымае,—злотых 3. За кадзідлы і парфумы—злотых 2, бо ад дрэннага паветра добра ядловец і дубняк. Не варта ўжываць таго, што дома не родзіць, трэба абыходзіцца сваім.

Ад карэты, што абабіта аксамітам з залатымі кутасамі, — злотых 20, бо такой аббіўкі не трэба. Хіба дрэнная скура без аксаміту, калі яна цэлая і не прапускае вады?

Ад кожнай шоўкавай шаты, за якой цягнецца хвост, — злотых 4. Ад дындала ля вуха, што вісіць жабай,—талер. Ад брывей фарбаваных — грошы 14. Ад штучных грудзей—грошы 24. Ад перапаленай гарэлкі для мыцця твару—грошы 6, бо добра мыцца і проста вадзіцай, што і для вачэй здарава. Ад чырвоных панчох—грошы 24, белых—грошы 15.

Ад дывана, разасланага на зямлі ля ложка,—злотых 4, бо добра і больш танная рагожа.

Калі жанчына мужу не верыць — злотых 10, бо сама—нічога добрага. Калі мужам кіруе — злотых 20. Бяда таму дому, дзе карова бадзе вала. Дзе макітра судзіць, там вярцімак блудзіць. Калі жанчына нагу выстаўляе—паўталера.

Усе, хто забыў старадаўні звычай, дадзены яшчэ маці нашай Еваі, выпер з дому кудзелю, схаваў на паддашак, каб не прасці, калаўроцік і пачаў марнатраўна строіцца ў галандскія фарботы і карункі, швабскія палотны ды галандскія рубчыкі, — усе яны не варты ісці замуж, калі нічога не ўмеюць рабіць. За такую дачку маці хай плоціць па 12 злотых у месяц.

Калі хто танцуе, ды не ўмее—грошы 10, бо лепш кінуў бы зусім. Калі хто толькі на адной назе скача, павінен плаціць злотых 10.

Калі хто гадуе дзічыну для палявання, хай плоціць злотых 10, бо лепш выкарміць у хляве з дзесятак свіней, чым ламаць сабе хрыбет у пагоні за рознай зверынай, заганяць коней ды нюхаць смурод. Нам не дзічына патрэбна, а болей таннага хлеба.

Ад доўгіх рукавоў, што зямлю падмятаюць, — грошы 20. Жанаты, што мае кучу дзяцей і часта голіць бараду,—ад кожнага галення грошы 15. Калі хто будуе з дрэва дом, даражэйшы за сто талераў, хоць мог будаваць мураваны, — мае штогод плаціць штраф і на выпадак агню адкладваць яшчэ па злотых 10.

Калі селянін пад п'яную руку шляхціца ў карчме прыб'е, то не павінен за гэта адказваць. Пабіты шляхціц яшчэ мусіць заплаціць селяніну за кожную рану паводле статуту, бо сам вінаваты—хай не п'е ў карчме.

Барыс ПАЛІШЧУК

## ЯК НАПІСАЦЬ НАРЫС

СПАЧАТКУ — што такое нарыс?

Нарыс — такая штука, якой заўсёды не хапае ў газеце.

А калі так, дык наша кансультацыя вельмі дарэчы.

Як жа напісаць нарыс?

Перш за ўсё трэба зняць тэлефонную трубку (не забараняецца і самому паехаць у вёску) і даведацца ў працаўнікоў канторы, як зваць будучага героя (скажам, даярку), колькі яна скончыла класаў, як доіцца ў яе групе каровы. Гэтага і досыць. Можаце смела брацца за самапіску.

Ва ўступнай частцы трэба закруціць штосьці аб прыродзе. Абавязкова пры гэтым скажыце пра «дываноеую рунь», «бурштынную высь», «духмянае надвячор'е», «белапеннае цвіценне». Гэта будзе сведчыць, што аўтар добра валодае мовай, умее падбіраць фарбы для раскрыцця характару чалавека.

Потым можна ўзяць гераіню за руку і кудысьці павесці. Куды — не мае значэння, абы толькі яна ішла. Па дарозе ўздымаюцца, быццам хвалі, адна за адной думкі. Успамінаецца «басаногае маленства». Апішыце, як яна насіла пясок у падоліку, а міма ішлі каровы. Дзяўчынка глядзела на іх і не магла надзівавацца. Ужо тады недзе ў глыбіні душы нарадзілася любоў да прафесіі даяркі.

Пра яе было толькі і думак усе школьныя гады. І вось выпуск. «Куды пайсці?» — хвалююцца аднакласнікі. А для вашай гераіні пытанне вырашана. Тут мэтазгодна намаляваць такую карціну. «Кантора калгаса. Учарашняя школьніца нясмела падала старшыні заяву і пачырванела. Той прачытаў, крытычна зірнуў на хударлявае дзяўчо і ўсміхнуўся ў сваё пшанічныя вусы:

— А справішся? Каровы ж маюць чатыры дойкі!

— Спраўлюся. Вы толькі даручыце, — выступілі на вачах слёзы.

— Ну, добра, — пабацькоўску супакоіў старшыня калгаса. — Ты дзяўчына, па ўсім відаць, настойлівая, свайго даб'ешся. Прымай заўтра групу кароў.

З кабінета яна выпырхнула, як на крылах».

Па першым часе не ўсё ладзілася, і маладая даярка ўначы ўмывалася слязамі. Дасведчаныя сяброўкі супакойвалі. Маўляў, не падай духам, адразу бога за бараду не схопіш.

Дзяўчына прыслухалася да гэтых парад і «таптала сцежку» да сэрца кожнай каровы, «рабіла шчодры засеў», «шукала ключыкаў да поспехаў». На ферму яна ішла, калі пеўні яшчэ і не думалі кукарэкаць. Назад вярталася, калі на таполі павісаў месяц. І да самага рання, «паклаўшы на падушку натруджаныя рукі», думала, чаго гэта Манька махала хвастом, а Лыска чухала капытом за левым вухам.

Усё гэта будзе характарызаваць станаўленне вашай гераіні, раскрываць яе ўнутраную прыгажосць.

Важна лагічна і ўдумліва закончыць нарыс. Калі даярка ішла кудысьці, дык павінна і прыйсці. Калі быў «шчодры засеў, дык павінны з'явіцца і «буйныя ўсходы», «вялікае малако». Іх трэба апісаць. Фуражная карова за дзень дае столькі і столькі кілаграмаў малака. За тыдзень, месяц, квартал, паўгоддзе яго надоена вось столькі. Кожную лічбу трэба параўнаць з лічбай адпаведнага перыяду мінулага года і паказаць рост у працэнтах. Каб усё гэта было больш даступна чытачу, трэба падсумаваць валавы надой даяркі і падлічыць колькасць аўтамабіляў ці вагонаўцыстэрнаў, якія спатрэбяцца, каб перавезці гэта малако. Прыдумайце яшчэ якую-небудзь лічбу — не пашкодзіць.

Загаловак можаце выбіраць, які вам спадабаецца. Напрыклад: «Шчодры засеў», «Сцежкі да сэрцаў», «Да высокіх рубяжоў», «Па працы і ўзнагарода», «Заўзятая», «Ключы да поспеху», «Сціплая працаўніца».

Паспрабуйце. Абавязкова атрымаецца.

Пераклаў з украінскай Р. БОХАН.

Гайнц КНОБЛОХ

## ШТО ГАВОРАЦЬ ПРА НАЧАЛЬНІКА

*Калі начальнік не спазняецца на работу: «Гэта ён наўмысна, каб да нас потым чапляцца!».*

*Калі ён спазняецца: «Вядома, яму ўсё можна!»*

*Калі ён пытаецца, як маецца сям'я супрацоўніка: «Заўсёды нос у чужыя справы тыча».*

*Калі не пытаецца: «Што яму тыя людзі».*

*Калі просіць уносіць прапановы: «А ў самога галава пустая!»*

*Калі сам прапануе: «Заўсёды ўсё пасвойму робіць».*

*Калі хутка прымае рашэнні: «Усё ў яго спехам!».*

*Калі марудна: «Няма ў яго ніякай рашучасці».*

*Калі збіраецца павялічыць штат: «Хоча, каб у яго быў самы большы аддзел».*

*Калі не збіраецца: «На нас ездзіць».*

*Калі абыходзіць якія-небудзь пастановы: «Сумлення няма ў чалавека».*

*Калі прытрымліваецца правіл і пастаноў: «Закасцянелы бюракрат».*

*Калі жартуе: «Гэтыя ідыёцкія жартачкі...».*

*Калі не жартуе: «Ты хоць раз бачыў, каб ён усміхнуўся?»*

*Калі прыслухоўваецца да парад: «Сам ні на што не варты».*

*Калі не прыслухоўваецца: «Самаўпэўнены і ганарлівы».*

*Калі ветлівы: «Заваёўвае танны аўтарытэт».*

*Калі няветлівы: «Задаецца».*

*Калі аддзел, якім ён кіруе, працуе добра: «Нічога дзіўнага, усю работу цягнем мы».*

*Калі аддзел працуе дрэнна: «А мы тут «пры чым?» Начальнік жа ў нас ёлуп».*

Пераклаў з нямецкай М. НАВІЦКІ.

## А ШТО, КАЛІ...













Мал. Б. КАЦА.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах

Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856. АТ 21049

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісы не вяртаюцца.